

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 521 Чэрвень 2006
Год выданьня 56

# Візыт лідэраў БНР у Аўстралію

Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла правяла сустрэчы зь беларусамі Аўстраліі, на якіх былі абмеркаваныя магчымасьці дыяспары ў спрыяньні дэмакратызацыі Беларусі.

У Сыднэі Івонку Сурвіллу прывітаў Старшыня Беларускага грамадзка-культурнага клюбу Міхась Лужынскі. У будынку клюбу адбылася сустрэча зь беларусамі Сыднэя, пад час якой абмяркоўвалася сытуацыя ў Беларусі, спосабы, якімі аўстралійская дыяспара можа дапамагчы дэмакратызацыі Бацькаўшчыны.

Аўстралійскія беларусы вялі актыўную выдавецкую дзейнасьць, выпускалі часапісы "На варце", "Лучнік", бюлетэнь "Новае жыцьцё", які цяпер аднаўлены намаганьнямі прадстаўніка новай хвалі эміграцыі Віктара Кавалеўскага.

Пасьля Сыднэя Сурвілла накіравалася ў Мэльбурн, які на працягу доўгага часу лічыўся цэнтрам беларускага жыцьця Аўстраліі. Старшыня Рады БНР наведала набажэнства ў царкве Трох Віленскіх Пакутнікаў БАПЦ. Кіраўнік Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі Яўген Груша наладзіў прыём з удзелам кіраўнікоў беларускіх арганізацыяў штату Вікторыя.

У Мэльбурне ўдзельнікі вакальнай групы "Каліна" прадставілі свае песьні, выдадзеныя на кампакт-дысках. Івонка Сурвілла наведала беларускія могілкі ў Фолькнэры, дзе ў 1970-я гады быў усталяваны помнік на вечны ўспамін усіх спачылых ведамых і няведамых беларусаў.

У аўторак, 16 травеня, Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла прыбыла ў Адэляйду, дзе ў царкве Сьвятых апосталаў Пятра і Паўла адбылося набажэнства, а потым сустрэча з прадстаўнікамі мясцовай беларускай дыяспары.

***Радыё Свабода***

***Афіцыйная справаздача з гэтага падарожжа будзе надрукаваная ў наступным ліпеньскім нумары "Беларуса".***




***Наведваньне могілак у Сыднэі. Кветкі сябру Рады БНР Аркадзю Качану.***

# Санкцыі супраць беларускага рэжыму

**ЗША**

Прэзыдэнт ЗША Джорж Буш 12 траўня сёлета падпісаў указ, якім ён забараняе ўезд у ЗША чальцам беларускага ўраду. Права ўезду ў Злучаныя Штаты прыпыненае наступным катэгорыям асобаў:

А) Чальцам ураду Аляксандра Лукашэнкі і іншым асобам, якія фармулююць, ажыцьцяўляюць, удзельнічаюць ці атрымліваюць выгаду ад палітыкі і дзеяньняў, у тым ліку фальсыфікацыі выбараў, парушэньня правоў чалавека, карупцыі, якія падрываюць ці разбураюць дэмакратычныя інстытуты і перашкаджаюць пераходу Беларусі да дэмакратыі;

В) Асобам, якія праз камэрцыйныя адносіны зь беларускімі ўрадавымі чыноўнікамі атрымліваюць істотную фінансавую выгаду ад палітыкі і дзеяньняў, пазначаных у пункце А);

С) Сужэнцам асобаў, пазначаных у пунктах А) і В);

Сьпіс асобаў, вызначаных вышэй, павінен быць складзены дзяржсакратаром ЗША ці ўпаўнаважанымі ім асобамі ў адпаведнасьці з працэдурамі, вызначанымі дзяржсакратаром – гаворыцца ў распараджэньні прэзыдэнта ЗША. Таксама адзначаецца, што гэты сьпіс павінен быць складзены неадкладна і будзе дзейнічаць да тае пары, пакуль дзяржсакратар не палічыць, што гэтыя захады больш ня ёсьць неабходнымі і павінны быць скасаваныя цалкам ці часткова.

***Заканчэньне на бачыне 15***

# Беларускі Шлях

***Павал СЕВЯРЫНЕЦ***



***А хто там ідзе, хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?..***

Увесну 2006 году ўвесь сьвет убачыў дзясяткі тысячаў беларусаў пад бел-чырвона-белымі сьцягамі ў цэнтры Менску. Патрабаваньне свабоды, пераменаў, незалежнасьці зноў шматтысячна канстатавала факт найноўшай гісторыі: "Жыве Беларусь!". Безумоўна, каб перамагчы рэжым, нацыянальнаму руху патрабавалася выявіць больш веры, больш еднасьці, больш духу, нарэшце, змабілізаваць больш удзельнікаў пратэстаў. Але і тое, што адбылося 19-25 сакавіка, стала сапраўдным прарывам, у параўнаньні з 2001-м ці 2004-м гадамі, паказала масавасьць, арганізаванасьць і, самае галоўнае, духовую моц. На вуліцы выйшла беларуская моладзь, якая склала большасьць сярод вулічных выступоўцаў – яна трымала кругласутачную варту на Кастрычніцкай плошчы і штодня даводзіла: у Беларусі ёсьць годная будучыня. Кампанія вылучыла лідэраў, здольных зьяднаць людзей і ўвасобіць альтэрнатыву рэжыму. Урэшце рэшт, гэтыя некалькі бурлівых вясновых дзён няўжарт спалохалі ўладу. Дзясяткі крымінальных справаў, сотніператрэсеных прыватных кватэраў і разгромленых штабоў, тысячы арыштаваных, для якіх у Менску ўжо не хапала ізалятараў і якіх развозілі ў іншыя гарады – усё гэта засьведчыла панічны страх рэжыму і сілу беларускага руху. Але – што далей? І ўвесь сьвет, і нашыя суседзі ва Ўкраіне, Польшчы, Балтыі, Расеі і, самае галоўнае, мільёны беларусаў, што назіралі за сакавіцкімі падзеямі ля тэлеэкранаў, ужо ў які раз пытаюць сябе: чаму Беларусь дагэтуль застаецца апошняй дыктатурай Эўропы? Што трэба зрабіць, каб адолець прасавецкі папулізм, падтрыманы імпэрскай Масквой? Увогуле, які шлях Бог вызначыў Беларусі прайсьці ў гісторыі, у нацыянальнай ідэі, у духовым сталеньні, каб вызваліцца?

***Працяг на бачыне 5***

# Побыт лідэраў БНР у Мэльбурне

У пятніцу 12 травеня 2006 году Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла разам з сваім заступнікам Сяргеем Навумчыкам прыляцелі з Сыднэю адведаць беларусаў Мэльбурну.

На наступны дзень ў Старшыні Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі сп. Грушы было прыняцце для далёкіх і дарагіх гасьцей. На сяброўскай бясядзе гаспадар афіцыйна прывітаў высокіх і дарагіх гасьцей ад беларускай грамады Мэльбурну.

Спн. Івонка Сурвілла расказала прысутным пра дзейнасьць Рады БНР і пра беларускую грамадзкую працу ў Канадзе. Мэтай іхнай паездкі ў Аўстралію ёсьць жаданьне бліжэй пазнаёміцца і наладзіць цясьнейшую лучнасьць паміж Радай БНР і аўстралійскімі беларусамі.

Сп. Сяргей Навумчык распавёў пра апошнія падзеі й навіны зь Беларусі, а таксама пра сваю дзейнасьць і падзеі ў Вярхоўным Савеце Беларусі 12-га скліканьня ў час ягонага дэпутацтва ў ім.

У нядзелю госьці наведалі мясцовую царкву БАПЦ, дзе айцы Аляксанадар і Юры адслужылі Літургію. Потым у царкоўнай залі ўсё частаваліся смачным абедам, які прыгатавала царкоўнае сястрыцтва. Ад парафіі Сьв. Віленскіх Пакутнікаў высокіх гасьцей прывітаў сп. Мікалай Субач, старшыня парафіяльнай рады.

Хачу шчыра падзякаваць сястрыцтву царквы за добра наладжаны абед, хоць на гэты дзень прыпала вялікае сьвята "Дзень Маці", і ўсе жанчыны павінны былі адпачываць, а не працаваць.

Пасьля абеду зрабілі некалькі здымкаў каля царквы і павезьлі паказаць сьцяг беларускія могілкі Фоўкнэр, дзе шмат нашых суродзічаў адыйшло на спачын.

Панядзелак быў цалкам прысьвечаны экскурсіі па цэнтру Мэльбурну.

А ў аўторак, 15 травеня, а. Аляксандар Грыцук і Аўген Груша адвезьлі дарагіх гасьцей на лётнішча, адкуль тыя паляцелі ў Адэляйду наведаць мясцовую беларускую грамаду.

*Аўген ГРУША*

# Побыт у Адэляйдзе

Было ад чаго разгубіцца. У пачатку траўня мне патэлефанаваў з Сыднэю Міхась Лужынскі і сказаў, што з візытам у Аўстралію прылятае Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла і яе заступнік Сяргей Навумчык.

Паўстала шмат пытаньняў, якія аднак паступова вырашыліся, праўда, не без вялікай дапамогі з боку старшыні парафіяльнага камітэту БАПЦ у Адэляйдзе сп. Мікалая Кандрусіка. Каб ня ён, то шмат чаго не змаглі-б дасягнуць.

На новае, нядаўна адбудаванае лётнішча ў Адэляйдзе лідэры БНР прыляцелі з Мэльбурну папаўдню, аб чым паведаміў інфармацыйны манітор, але на паволі плывучым уніз эскалятары іх усё не было відаць. Нэрвова сьціскаючы ў сваіх руках бел-чырвона-белыя сьцяжкі на іх чакалі прадстаўнікі беларускіх грамадзкага і рэлігійнага камітэтаў. Стоячы сярод іх я быў упэўнены, што змагу пазнаць Івонку Сурвіллу, бо шмат разоў бачыў яе фота на старонках газэтаў ды й на відэафільме таксама, які даслаў нам зь Летувы спадар Хведар Нюнька. Праз хвіліну пачулася: "Вось яны!" - і мы замахалі сьцяжкамі. Яшчэ праз хвіліну ўжо па-сяброўску паціскалі рукі, перадавалі кветкі і адчувалася, што сустракаюцца не чужынцы, а людзі, якія доўгі час ведаюць адзін аднаго.

Увечары гэтага-ж дня настаяцель БАПЦ айцец Яўген (Квасьнюк, УАПЦ) адслужыў Божую службу, пасьля чаго ў беларускай грамадзкай залі пры царкве адбылася прывітальная сустрэча, якую адчыніў Мікалай Кандрусік, перадаўшы потым слова Віктару Кавалеўскаму.

У сваёй прамове Старшыня Рады БНР распавяла прысутным пра сваё жыцьцё, адзначыла гістарычныя моманты Рады БНР, дзейнасьць старшыняў Рады ў розныя гады яе існаваньня. Спыніўшыся на сваім удзеле у дапамозе ахвярам Чарнобылю, спн. Сурвілла далей прааналізавала дзейнасьць Лукашэнкі, фальшывасьць заяваў беларускай прэсы аб тым, што Лукашэнка прадстаўляе беларускі народ, адзначыла ўздым актыўнасьці ў працы сябраў Рады ў апошнія гады, удзел прадстаўнікоў Рады ў міжнародных акцыях, палітычных мерапрыемствах. Прыкладам дзейнасьці Рады спн. Сурвілла прывяла адмову ўраду Канады прыняць самалёт (з мэтаю дазапраўкі) прам'ер-міністра Беларусі на яго шляху ад Фідэля Кастра. Скончыла сваю прамову Старшыня Рады БНР сказаўшы, што без БНР не было-б БССР, што мэтаю змаганьня ёсьць Беларусь, як незалежная і вольная дзяржава, і ўсе прысутныя могуць быць вялікай часткай гэтага змаганьня.

Узяўшы далей слова заступнік Старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык адзначыў, што бачыць мала беларускай моладзі сярод прысутных у залі, што патлумачыў вынікамі існуючага пракамуністычнага рэжыму ў Беларусі. Распавядаючы пра сваю працу дэпутатам Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня сп. Навумчык спыніўся на дзейнасьці тагачаснага дэпутата Лукашэнкі, які выступаў тады толькі на расейскай мове і толькі супраць незалежнасьці Беларусі, а пазьней і за яднаньне з Расеяй. Сяргей падкрэсьліў паступовае ўзмацненьне забаронаў з боку Лукашэнкі, ініцыятывы дыктатара аб ліквідацыі беларускіх сымбаляў, нарэшце забароны ўжываньня беларускай мовы. Спадар Навумчык паказаў прысутным фатаздымкі ўдзельнікаў галадоўкі ў парлямэнце, загад Лукашэнкі на зьбіцьцё ўдзельнікаў акцыі пратэсту, увод у парлямэнт вайсковых адзінак. Пасьля так званага рэфэрэндуму, сказаў Сяргей, Лукашэнка пачаў паводзіць сябе больш брутальна, зьліквідаваў усе беларускамоўныя школы ў сталічным горадзе, а сёньня ліквідуе Саюз пісьменьнікаў Беларусі, перашкаджае распаўсюджваньню беларускамоўных незалежных газэт, чакае на злучэньне з Расеяй і атрыманьне высокай пасады ў расейскім урадзе. Таксама выступоўца адзначыў катастрафічныя вынікі Чарнобыля, распавёў пра сваю паездку да "саркафагу", пра паступовае павелічэньне трэшчынаў у гэтай канструкцыі, магчымасьць новага выбуху і неабходнасьць вялікіх сродкаў для ліквідацыі будучай катастрофы.



*Сьпераду сядзяць С. Навумчык, І. Сурвілла, а. Я. Квасьнюк; стаяць ззаду Іна і Віктар Кавалеўскія.*

Спыніўся Сяргей і на апошніх выбарах, на ўдзеле беларускай моладзі ў акцыі пратэсту і арыштах актывістаў. Скончыў сваю прамову заступнік старшыні Рады БНР заклікаўшы прысутных працягваць працу на эміграцыі, бо менавіта праз працу беларускай эміграцыі, сказаў ён, захавалася беларуская нацыянальная спадчына: бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня. Сяргей адзначыў важнасьць эміграцыйнага друку, карысьць распаўсюджваньня гістарычнай праўды пра нашую Бацькаўшчыну. Дадаў, што цьвёрда верыць у дэмакратычную будучыню Беларусі.

Пасьля афіцыйнай часткі на сяброўскім пачастунку госьці мелі магчымасьць пагутарыць з адэляйдзкімі беларусамі, адказаць на пытаньні, абмяняцца ўражаньнямі.

Вельмі цікава было паслухаць нашых гасьцей раніцай 17-га травеня, калі нечакана закруцілася вельмі насычаная гутарка аб беларускай літаратуры, празаіках, асабліва аб апошніх днях жыцьця Васіля Быкава.

На другі дзень прадстаўнікі беларускага ўраду на эміграцыі агледзелі навакольлі Адэляйды, нават мелі магчымасьць пагладзіць аўстралійскага мядзьвядзя каалу і пакарміць кенгуру.

Вечарам, у партовым кафэ Primo, зноў завязалася цікавая гутарка пра беларускіх літаратараў, палітыку, жыцьцё на эміграцыі. Пасьля пайшлі да мора. Сонца паволі схілялася ў хвалі заліву Сьвятога Вінцэнта, падпальваючы рэдкія воблакі сваімі праменьнямі. Гэта адразу заўважыла сваім мастацкім вокам Івонка, пачала рабіць фатаздымкі, казаць пра мясцовую асаблівасьць.

На трэйці дзень апеку над гасьцямі ўзялі Мікалай і Галіна Кандрусікі, якія паказалі цэнтар Адэляйды ды іншыя турыстычныя мясьціны.

Час праляцеў хутка, і мы зноў на адэляйдзкім лётнішчы, ужо праважаем высокіх гасьцей у Сыднэй да галоўнага арганізатара іх побыту ў Аўстраліі сп. Міхася Лужынскага. Па-мышынаму піскнуў сканэр у руцэ кантралёра і Івонка зь Сяргеем пайшлі да самалёта. Менавіта ў гэты момант аўстралійцы пачулі ад Івонкі мяккае: "Жыве Беларусь!", а за ёю сьледам гулкае Сяргея "Жыве!". Такімі й засталіся ў маёй памяці лідэры БНР: з паднятай уверх рукою і гістарычнымі словамі на вуснах.

Візыт Івонкі Сурвіллы і Сяргея Навумчыка паклаў на ўсіх сьвядомых беларусаў Адэляйды (і, як мне казаў па тэлефону Міхась Лужынскі, на сыднэйцаў з мэльбурнцамі таксама) вялікае ўражаньне ад магчымасьці проста пагутарыць з палітычнымі дзеячамі, паціснуць рукі, паслухаць. Пабачыць першую жанчыну старшыню БНР, жывую, энэргічную, зь нязьнікаючай усьмешкай, і Сяргея, стрыманага, хоць і гаворкага, але не без усьмешкі таксама, праўда, яна хаваецца ў яго недзе ў вачох, недзе ля краю вуснаў.

Ад імя беларусаў Адэляйды жадаю высокім гасьцям далейшай плённай працы на ніве разьвіцьця беларускай нацыянальнай ідэі, посьпехаў у барацьбе за ўсталяваньне дэмакратычнага жыцьця на Бацькаўшчыне, самага найлепшага ў прыватным жыцьці і крэпкага здароўя.

*Віктар КАВАЛЕЎСКІ*
*Адэляйда*

# Канфэрэнцыя ў Вільні

У Вільні 3-4 травеня 2006 году адбылася прадстаўнічая міжнародная канфэрэнцыя "Агульнае бачаньне агульнага суседзтва". Прадстаўнікі з 20 краінаў бралі ў ёй удзел, і былі прадстаўленыя альбо першымі асобамі, альбо на вельмі высокім узроўні.

На канфэрэнцыі былі прэзыдэнты Ўкраіны Юшчанка, Малдовы Воронін, Грузіі Міхаіл Саакашвілі, Польшчы Лех Качыньскі, Летувы Валдас Адамкус, Румыніі Траян Басеску, Эстоніі Арнольд Руйтэль, Латвіі Віке Фрэйберга, Баўгарыі Георгі Пырванаў. У Вільню прыехаў віцэ-прэзыдэнт ЗША Чэйні.

На паседжаньнях вельмі шырока абмяркоўвалася сытуацыя ў Беларусі, і ці ня кожны выступоўца ўзгадваў яе. На канфэрэнцыі выступілі чатыры прадстаўнікі Беларусі — Іна Кулей, Ірына Казуліна, Ірына Красоўская і Анатоль Лябедзька.

Спн. І. Кулей мела таксама кароткую сустрэчу зь віцэ-прэзыдэнтам ЗША Рычардам Чэйні.

Па заканчэньні канфэрэнцыі абвешчана аб стварэньні Эўрапейскага дэмакратычнага фонду, дзеля таго каб замацаваць і падтрымліваць дэмакратыю і дэмакратычныя каштоўнасьці ў рэгіёне. Аднак, гэты Фонд мае служыць ня толькі палітычным мэтам, але таксама забясьпечваць магчымасьці для дзейнасьці ў сфэры культуры, творчасьці, навукі, дасьледаваньняў. Фонд павінен стварыць сувязь паміж краінамі, каб забясьпечваць таленавітыя, творчыя сілы, каб рухацца наперад і спрыяць разьвіцьцю Эўропы.

*Радыё Свабода*



*Спн. Іна Кулей з Рычардам Чэйні.*

# Грэка-каталікі ў Лёндане маюць новага дыякана




Высокаасьвячаны Паўло Хамныцькый, украінскі каталіцкі біскуп Стамфарду (ЗША), падчас свайго побыту ў Лёндане 14-га траўня 2006 году рукапаклаў на дыякана спадара Сяргея Стасэвіча, бакаляўра багаслоўя. Айцец дыякан Сяргей нарадзіўся ў Івацэвічах у Беларусі, скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт (культуралёгія), пасля чаго распачаў багаслоўскія студыі ў Рыме на Папскім ўнівэрсытэце Анжэлікум. Па атрыманьні ступені бакаляўра быў пасланы на працу на Беларускую каталіцкую місію ў Лёндане.

Жадаем новасьвячанаму Айцу дыякану доўгіх і памысных гадоў у служэньні Беларусі і Царкве. Axios!

*Дыякан*
*Ігар ЛАБАЦЭВІЧ,*
*Кліўленд, Агаё*

# Пакуль што без узаемнасьці

Аляксандар Лукашэнка на сустрэчы з прэзыдэнтам РФ А. Пуцінам у Пецярбургу 28 красавіка 2006 году сказаў: "І мы бачым з боку эўрапейцаў і амэрыканцаў, што, нягледзячы на шуміху, усё-ж яны пазытыўна настроеныя на супрацоўніцтва."

Віцэ-Прэзыдэнт ЗША Д'ік Чэйні на канфэрэнцыі дзяржаўных кіраўнікоў у Вільні 4 траўня 2006:

"Усе мы абавязаны спрыяць дэмакратычнаму працэсу ў Беларусі. Яе народ пакутаваў ад войнаў, перажыў жахлівыя страты. І цяпер апошняя дыктатура ў Эўропе пазбавіла гэтых людзей самых асноўных свабодаў... Сьвет ведае, што адбываецца ў Беларусі. Мірныя дэманстрацыі зьбіваюцца, іншадумцы зьнікаюць, дамінуе створаная ўладамі атмасфэра страху. У Эўропе няма месца для рэжыму такога кшталту."

На думку некаторых аналітыкаў, нечаканая раптоўная сустрэча Пуціна з Лукашэнкам 28 красавіка адбылася на дамаганьне амэрыканскага ўраду, які спрабуе паўплываць на Лукашэнку праз Пуціна. Лукашэнка, відаць, гэта адчуў. Адсюль ягоны дым у вочы пра "пазытыўна настроеных" амэрыканцаў.

*(А. Б–ч.)*

# Беларускае кіно ў Нью Ёрку

Газэта "New York Times" 1-га чэрвеня надрукавала артыкул "Беларусь: партрэт абсалютнай карупцыі ўлады",– гэта рэцэнзія на дакумэнтальныя фільмы беларускага рэжысёра Віктара Дашука "Ноч доўгіх нажоў" і "Рэпартаж з клеткі для трусоў", якія ішлі 1-7 чэрвеня ў нью-ёрскім кінатэатры "Pioneer Theater".

У абодвух стужках Віктар Дашук крытычным вокам глядзіць на А. Лукашэнку. Аднак у фільме "Ноч доўгіх нажоў" аўтар больш увагі надае маральна сапсаванай прыродзе савецкай улады. Вывучаючы савецкіх лідэраў, сп. Дашук сьцьвярджае, што беларусы заўсёды былі саўдзельнікамі ўласнага ўціску, гатовымі да самаахвяраваньня, і мелі патрэбу ў моцнай руцэ. Крытыка ўласнага народу, надае фільму моцны рэзананс.

Менш філязофскі, але ня менш турбуючы фільм "Рэпартаж з клеткі для трусоў" паказвае рэаліі жыцьця ў Беларусі, выкрывае лёс тых, хто супрацьстаяў прэзыдэнту. Пабудаваны на галасах беларускіх грамадзян, фільм выяўляе жахлівыя сцэны гвалту над нявіннымі. .

Дакумэнтальныя фільмы былі вывезеня зь Беларусі кантрабандай.

*Паводле Радыё Свабода*

# Візы ў ЗША

Тыя замежнікі, якія хочуць легальна пераехаць жыць у ЗША вымушаныя будуць доўга чакаць, у некаторых выпадках аж да 23 гадоў. Такія тэрміны вымушаюць многіх жадаючых тут працаваць, а таксама сваякоў амэрыканскіх грамадзянаў шукаць іншыя, часам нелегальныя, шляхі, прыехаць у краіну.

Паміж 3 і 4 мільёны чалавек па ўсяму сьвету чакаюць грынкартаў, папераў, якія дазваляюць неграмадзянам легальна жыць і працаваць у ЗША. Жадаючыя атрымаць працоўную візу, якія ня маюць нейкіх выдатных здольнасьцяў, як выбітныя вучоныя ці акадэмікі, будуць змушаныя чакаць у сярэднім пяць гадоў. Тыя-ж, хто хоча ўехаць у ЗША па праграмах узьяднаньня сем'яў будуць чакаць да 23 гадоў у залежнасьці ад краіны і блізкасьці сваяцтва.

Такія затрымкі ёсьць вынікам вялікай працаёмкасьці афармленьня такіх папераў, а таксама таго, што многія апліканты чакаюць візаў, якія выдаюцца толькі ў абмежаванай колькасьці. Амэрыканскія заканатворцы ў Вашынгтоне згодныя з тым, што такую сыстэму трэба мяняць, і цяпер абмяркоўваюць закон, які можа павялічыць колькасьць візаў, якія выдаюцца.

Грынкарты выдаюць двум катэгорыям аплікантаў: сваякам амэрыканскіх грамадзянаў і жадаючым працаваць у ЗША. Сваякі разьдзеленыя на катэгорыі, дзе перавага аддаецца жонкам і мужам амэрыканскіх грамадзянаў, у той час калі браты й сёстры грамадзянаў ЗША сутыкаюцца з доўгім чаканьнем дазволу на пражываньне. Нежанатыя дарослыя дзеці амэрыканскіх грамадзянаў вымушаныя чакаць грынкартаў прыкладна пяць гадоў, у той час як толькі цяпер разглядаюцца звароты ад братоў і сёстраў, дасланыя ў кастрычніку 1983 году.

Кожная краіна мае гадавы ліміт на колькасьць выданых візаў. Асабліва доўга чакаюць сваякі з Кітаю, Індыі, Мэксікі і Філіпінаў.

Найгоршым для жадаючых пераехаць у ЗША зьяўляецца тое, што пасьля таго, як яны зьвярнуліся з заявай на ўезд, Джярждэпартамэнт ужо ня выдае ім часовых візаў, напрыклад, у госьці, бо яны сваёй заявай паказалі, што жадаюць жыць у Злучаных Штатах і могуць выкарыстаць часовую візу, каб застацца ў краіне нелегальна.

Меры перасьцярогі, прынятыя пасьля 11 верасьня 2001 году, зрабілі нават атрыманьне часовых візаў яшчэ складанейшым. Апліканты толькі каб трапіць на інтэрв'ю ў амэрыканскую амбасаду павінны чакаць па некалькі месяцаў.

Для большасьці працаўнікоў, якія знайшлі сабе працадаўцаў, чаканьне візы складае пяць гадоў, і гэты працэс перапоўнены самымі рознымі складанасьцямі. Перш за ўсё працадаўца павінен пацьвердзіць Дэпартамэнту працы, што, ня гледзечы на шматлікія спробы і абʼявы ў газэтах, ня здолеў знайсьці на гэтае працоўнае месца амэрыканскага грамадзяніна.

Будучыя працаўнікі павінны атрымліваць візы ў сваіх краінах, стаючы ў чаргу пасьля ўсіх іншых жадаючых прыехаць на працу ў ЗША. Калі працаўнікі ўжо знаходзяцца ў ЗША па спэцыяльнай часовай працоўнай візе, то яны ня маюць права пакідаць гэтую працу, пакуль не атрымаюць сталую візу. Усё гэта настолькі ўскладняе працэс, што амаль ніякі працадаўца нават ня хоча яго распачынаць.

*Па матар'ялах амэрыканскай прэсы*

# Санкцыі супраць рэжыму Лукашэнкі

*Заканчэньне з бачыны 1*

**Эўразьвяз**

Рада Эўразьвязу 18 траўня ўхваліла фінансавыя санкцыі супраць А. Лукашэнкі і 35 іншых вышэйшых беларускіх чыноўнікаў, адказных за парушэньні міжнародных выбарчых стандартаў, уціск грамадзянскай супольнасьці, ды перасьлед апазыцыі пад час прэзыдэнцкіх выбараў 19 сакавіка 2006 году. Згодна з гэтым рашэньнем будуць замарожаныя ўсе выяўленыя рахункі і маёмасьць у краінах Эўразьвязу, зьвязаныя наўпрост ці ўскосна з наступнымі беларускімі чыноўнікамі:

*1. Аляксандар Лукашэнка, прэзыдэнт Беларусі;*
*2. Генадзь Нявыглас, кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта;*
*3. Натальля Пяткевіч, намесьніца кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта;*
*4. Анатоль Рубінаў, намесьнік кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта, адказны за ідэалёгію;*
*5. Алег Праляскоўскі, памочнік прэзыдэнта і кіраўнік ідэалягічнай управы адміністацыі прэзыдэнта;*
*6. Аляксандар Радзькоў, міністар адукацыі;*
*7. Уладзімер Русакевіч, міністар інфармацыі;*
*8. Віктар Галаванаў, міністар юстыцыі;*
*9. Аляксандар Зімоўскі, старшыня Белдзяржтэлерадыёкампаніі;*
*10. Уладзімер Канаплёў, старшыня Палаты прадстаўнікоў;*
*11. Мікалай Чаргінец, кіраўнік камісіі Савету Рэспублікі;*
*12. Сяргей Касьцян, кіраўнік камісіі Палаты прадстаўнікоў;*
*13. Міхаіл Орда, дэпутат Палаты прадстаўнікоў, лідэр БРСМ;*
*14. Мікалай Лазавік, сакратар Цэнтравыбаркаму;*
*15. Пётр Міклашэвіч, генэральны пракурор;*
*16. Алег Сьліжэўскі, кіраўнік аддзелу грамадзкіх аб'яднаньняў і партыяў Мін'юсту;*
*17. Аляксандар Харытон, кансультант гэтага аддзелу Мін'юсту;*
*18. Яўген Сьмірноў, першы намесьнік старшыні Вышэйшага гаспадарчага суду;*
*19. Надзея Равуцкая, судзьдзя Маскоўскага раённага суду Менску;*
*20. Мікалай Трубнікаў, судзьдзя Партызанскага раённага суду Менску;*
*21. Мікалай Купрыянаў, намесьнік генэральнага пракурора;*
*22. Сьцяпан Сухарэнка, старшыня КДБ;*
*23. Васіль Дземянцей, першы намесьнік старшыні КДБ;*
*24. Леанід Козік, старшыня Фэдэрацыі прафсаюзаў;*
*25. Аляксандар Каляда, старшыня Берасьцейскай абласнјq выбарчай камісіі;*
*26. Уладзімер Міхасёў, старшыня Гомельскай абласной выбарчай камісіі;*
*27. Леанід Лучына, старшыня Гарадзенскай абласной выбарчай камісіі;*
*28. Ігар Карпенка, старшыня Менскай гарадзкой выбарчай камісіі;*
*29. Уладзімер Курловіч, старшыня Менскай абласной выбарчай камісіі;*
*30. Мікалай Мяцеліца, старшыня Магілёўскай абласной выбарчай камісіі;*
*31. Міхаіл Пішчулёнак, старшыня Віцебскай абласной выбарчай камісіі;*
*32. Віктар Шэйман, старшыня Рады Бясьпекі;*
*33. Дзьмітры Паўлічэнка, камандзір брыгады спэцназу;*
*34. Уладзімер Навумаў, міністар унутраных справаў;*
*35. Лідзія Ярмошына, старшыня Цэнтравыбаркаму;*
*36. Юры Падабед, камандзір палка міліцыі спэцыяльнага прызначэньня.*

*Радыё Свабода*

# Беларусь за месяц

## Зьезд КХП-БНФ

27 травеня быў праведзены VII рабочы зьезд Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ. Дэлегаты пераабралі старшынём партыі Зянона Пазьняка ("за" — 94 дэлегаты, "супраць" — 2), намесьнікамі старшыні – Юрася Беленькага і Сяргея Папкова, а таксама прынялі рэзалюцыю, якая вызначыла асноўныя задачы партыі на найбліжэйшую будучыню: барацьба за незалежнасьць Беларусі супраць інкарпарацыі краіны Расеяй і супраць правядзеньня рэфэрэндуму аб Канстытуцыйным акце.

## Казуліна пакінулі пад вартай

Экс-кандыдату на пост прэзыдэнта, кіраўніку Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Грамада" Аляксандру Казуліну адмовілі ў зьмяненьні меры ўтрыманьня пад вартай на іншую, не зьвязаную са знаходжаньнем у турме, а тэрмін знаходжаньня пад вартай падоўжаны да 1 ліпеня. А. Казулін быў арыштаваны пад час Дня Волі 25 сакавіка і зьмешчаны ў сьледчы ізалятар у Жодзіна (Менская воб.).

Потым пракуратура прад'явіла яму абвінавачваньне па трох эпізодах. Першыя два тычацца падзеяў у Менску 17 лютага, калі лідэр БСДП (Грамада) спрабаваў прарвацца ў Нацыянальны прэсцэнтар, і 2 сакавіка — на так званы ўсебеларускі народны сход. Гэтыя эпізоды кваліфікуюцца як хуліганства. Трэці зьвязаны з падзеямі 25 Сакавіка, арганізацыяй паходу на Акрэсьціна. А. Казуліну пагражае пазбаўленьне волі на тэрмін да шасьці гадоў.

## Справа Фінькевіча




Маладафронтаўца Артура Фінькевіча пакаралі двума гадамі абмежаваньня свабоды ("хіміі"). Суд Першамайскага раёну горада Менску 5-га траўня кваліфікаваў ягонае "злачынства" (нанясеньне графіці "Мы хочам новага") як злоснае хуліганства (ч. 2 арт. 339 Крымінальнага кодэксу). Як пісаў "Беларус" (№ 520, красавік 2006) напачатку хлопца палохалі абвінавачаньнем аб пашкоджаньні маёмасьці ў буйных памерах (ч. 3 арт. 218), што караецца зьняволеньнем ад сямі да дванаццаці гадоў.

Паколькі 21-гадовы Артур з канца студзеня знаходзіўся ў сьледчым ізалятары, дзе адныя суткі залічваюцца за двое, то, магчыма, потым ён будзе вызвалены датэрмінова.

## Леванеўскага вызвалілі

15 травеня з Івацэвіцкай калёніі агульнага рэжыму (Берасьцейская вобл.) быў вызвалены адзін зь лідэраў прадпрымальніцкага руху, гарадзенец Валеры Леванеўскі. Ён быў арыштаваны два гады таму, у траўні 2004 году, па абвінавачаньні ў публічнай абразе прэзыдэнта Беларусі, а ў верасьні таго-ж году Ленінскі суд Гродні асудзіў яго на два гады пазбаўленьня волі. Падставаю для арышту і прысуду прадпрымальніка сталі ўлёткі, распаўсюджаныя напярэдадні акцыі прадпрымальнікаў у Горадні 1 траўня 2004 году, дзе зьмяшчаліся зьдзеклівыя вершы аб кіраўніку краіны.

## Справа СБП прыпыненая

Міністэрства юстыцыі... Мінюст адклікаў свой пазоў аб ліквідацыі Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, а 22 траўня Вярхоўны суд Беларусі прыпыніў справу ў дачыненьні да СБП, заявіўшы, што рашэньне канчатковае і абскарджаньню не падлягае.

Саюз беларускіх пісьменьнікаў абвінавачвалі ў нестатутнай дзейнасьці — спрыяньні правядзеньню Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыяй "Грамада" свайго зьезду ў памяшканьні Дома літаратара, дзе знаходзіцца офіс Саюзу пісьменьнікаў, а таксама ў некаторых іншых парушэньнях.

## Вылучэньне А. Бяляцкага

Праваабаронца, кіраўнік закрытага ўладамі "Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі вылучаны дэпутатамі парляманту Нарвэгіі на атрыманьне Нобэлеўскай прэміі міру. Сёлета А. Бяляцкаму ўжо ўручылі дзьве прэміі: адну імя Андрэя Сахарава ад Нарвэскага гельсінскага камітэту і другая "Чалавек - чалавеку" была ўручаная былым прэзыдэнтам Чэхіі Вацлавам Гавелам.

Апроч кандыдатуры беларуса, у лісьце Міжнароднага інстытуту дасьледаваньняў міру, які публікуе прозьвішчы патэнцыйных кандыдатаў, былы прэм'ер-міністар Фінляндыі Марці Ахцісаары, які ўзначальвае арганізацыю, што ажыцьцяўляе пасярэдніцтва ў міждзяржаўных канфліктах, старшыня Міжнароднага Гаагскага трыбуналу Карла дэль Понтэ, прэзыдэнт Вэнэсуэлы Уга Чавес.

## Сьвятыя мошчы ў Менску

22 траўня ў Менску, у Сьвята-Духавым саборы, упершыню выставілі для пакланеньня вернікаў куфэрак з часьцінкай мошчаў сьвяціцеля, цудатворца Мікалая, біскупа зь Міраў Лікійскіх (сучасная Турцыя). Куфэрак зь сьвятыняй быў урачыста перададзены мітрапаліту Філарэту ў часе візыту ў швайцарскі Фрыбур, дзе захоўваецца дзясьніца сьвятога Мікалая. 22-23 травеня Сьвята-Духавы сабор наведала велізарная колькасьць вернікаў.

## Жарсьці па Леанарда

Нежартоўныя жарсьці разгарэліся ў Беларусі вакол фільму Рона Хаўэрда "Код да Вінчы", зьнятым паводле аднайменнага раману пісьменьніка Дэна Браўна. У Менску ў пракат фільм паступіў 18 траўня, але супраць яго паказу выступілі прадстаўнікі Расейскай праваслаўнай царквы ў Беларусі і рыма-каталіцкага касьцёлу, якія прысутнічалі на папярэднім праглядзе стужкі.

Пробашч касьцёлу Сьв. Сымона і Алены Уладзіслаў Завальнюк нават абвесьціў пост, паколькі фільм абражае пачуцьці вернікаў. Паводле Дэна Браўна, у Ісуса Хрыста была жонка Марыя Магдалена і дзеці. "Калі вашых бацькоў абражаюць і прыдумляюць пра іх невядома што, то вы можаце зьвярнуцца ў суд. А тут абраза самага сьвятога - Хрыста", - заявіў сьвятар. Вернікі абодвух канфэсій пачалі ладзіць пікеты вакол кінатэатраў. Як вынік, з 23 траўня фільм быў зьняты з пракату.

Варта адзначыць, што такія крокі, наадварот, падагрэваюць інтарэс да фільму, бо нішто так не прыцягвае ўвагу як забароненны плод.

## Віны з Грузіі й Малдовы пэстыцыдаў ня маюць

На тле эканамічна-вінных вайны Расеі з Малдовай і Грузіяй, рашэньне беларускіх экспартаў зьдзівіла. "У малдоўскіх і грузінскіх вінах, якія праверылі, ніякага перавышэньня ўтрыманьня пэстыцыдаў ня выяўлена, і з продажу яны здымацца ня будуць. У краіне рэалізуюцца якасныя малдоўскія і грузінскія віны", — заявіў у інтэрвію інфармацыйнай кампаніі БелаПАН галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Беларусі Міхаіл Рымжа.

Скандал разгарэўся два месяцы таму ў Расеі, калі галоўны дзяржурач Расеі Генадзь Анішчанка заявіў на прэс-канфэрэнцыі, што грузінскія і малдоўскія віны не адпавядаюць стандартам па ўтрыманьні пэстыцыдаў. Тады з продажу ў Расеі былі зьнятыя мільёны літраў віна. Незалежныя экспэрты потым казалі, што віно нічто па пэстыцыды насамрэч не правяраў, а заява дзяржурача была спробаю ціску на непакорных грузінаў і малдаванаў.

## "Залаты апостраф"

18 траўня на вечарыне ў Доме літаратара вызначылі ляўрэатаў прэміі "Залаты апостраф", якая ўручаецца літаратурным часапісам "Дзеяслоў". У намінацыі "Найлепшая паэзія" ўзнагароду атрымаў Віктар Сьлінко (паэма "Жбан і вада"). Найлепшым празаікам мінулага году стаў вядомы паэт Леанід Дранько-Майсюк за творы "Нэрвовы раман" і "Хлопчык і бацькі". У намінацыі "Дэбют году" была адзначаная маладая паэтка з Горадні Ганна Аўчыньнікава.

## Фартовы травень

Травень быў досыць пасьпяховым месяцам для беларускіх спартоўцаў. Упершыню ў нашай гісторыі ў фінале футбольнай Лігі чэмпіёнаў згуляў беларус — паўабаронца нацыянальнай зборнай і лёнданскага "Арсэналу" Аляксандар Глеб. Хоць лёнданскі клюб і прайграў 17 траўня каталёнскай "Барсэлёне", аднак беларус глядзеўся някепска.

Прыстойна выступілі беларускія хакеісты на 70-ым чэмпіянаце сьвету, які праходзіў 5—21 траўня ў Рызе (Латвія). Зборная пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера клюба НХЛ "Вашынгтон Кэпіталз" Глена Хэнлана трапіла ў васьмёрку наймацнейшых. Гэта найлепшае дасягненьне беларускіх хакеістаў за найноўшую гісторыю. Да таго-ж галькіпэр нацыянальнай зборнай Андрэй Мезін быў уключаны ў сымбалічную зборную чэмпіянату.

Клюб "Анахайм Майты Дакс", за які выступае абаронца беларускай хакейнай зборнай Руслан Салей, дайшоў да фіналу Заходняй Канфэрэнцыі (паўфінал Кубку Стэнлі). Праўда, у гэтым крузе ён прайграў сэрыю з пяці матчаў "Эдмантан Ойлерз" — 1:4.

25 траўня ў Рыдынгу (Вялікабрытанія) футбольная зборная Беларусі правяла таварыскую гульню са зборнай Англіі-2. За брытанцаў гулялі футбалісты, якія ня маюць трывалага месца ў складзе асноўнай каманды (Джэнас, Оўэн, Краўч, Кэмпбэл). Беларусы перамаглі 2:1, хоць з-за шматлікіх грубых канфліктаў гульня на таварыскую ніяк не паходзіла.

*Уласны карэспандэнт*

## «Бацькаўшчына» пад пагрозай

МГА "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" і створаны на яе базе Беларускі дом могуць застацца без памешканьня і без юрыдычнага адрасу.

3 траўня "ЗБС "Бацькаўшчына" атрымала ліст ад арэндадаўцы — КУП "Менская спадчына", у якім паведамлялася, што ў адпаведнасьці з рашэньнем Менгарвыканкаму ад 20 красавіка КУП "Менская спадчына" дазволеныя будаўнічамантажныя працы рэканструкцыі будынку на вуліцы Рэвалюцыйнай, 15

У выніку — "Бацькаўшчына" вымушаная будзе выселіцца з памяшканьня. Застаецца незразумелым, ці зможа арганізацыя сюды вярнуцца пасьля рамонту, бо ўсе звароты па гэтым пытаньні ў Менгарвыканкам не праясьнілі сытуацыі. Што плянуецца разьмясьціць у будынку, дзе раней знаходзілася першая навуковая ўстанова Беларусі, з якой паўстала Нацыянальная Акадэмія Навук, пакуль невядома, але ёсьць пагроза, што ў гэтым будынку будзе рэстаран!!!

За ўвесь час сваёй дзейнасьці МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" неаднойчы выконвала праграмы, якія мелі дзяржаўнае значэньне, былі ўнікальнымі па характары. "Бацькаўшчына" сёньня зьяўляецца актыўным грамадзкім цэнтрам па супрацы зь беларускімі асяродкамі за мяжой, які мае добрую рэпутацыю сярод розных беларускіх дыяспар у сьвеце.

Зараз-жа "Мінская спадчына" хоча ў аднабаковым парадку скасаваць дамову арэнды, хоць юрыдычных падставаў для гэтага няма. Для МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" страта дамовы аб арэндзе — гэта страта юрыдычнага адрасу. Кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" прыкладае ўсе намаганьні дзеля таго, каб захаваць юрыдычны адрас, знайсьці новае прыдатнае памешканьне на час рамонту, і, самае галоўнае, захаваць існуючы Беларускі дом.

Нажаль, тыя прапановы па размяшчэньні сядзібы, што мае "Бацькаўшчына" зараз, зводзяцца да будынку ў прамысловай зоне на ўскраіку Менску. Такі варыянт ня можа разглядацца сур'ёзна, бо прывядзе да спыненьня дзейнасьці Беларускага дому.

*Паводле Інфармацыйнага цэнтру МГА ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Памёр Уладзімер Плешчанка

Сьмерць напаткала яго раптоўна, каля бацькоўскае хаты ў вёсцы Вароны Віцебскага раёну. Тут ён жыў цягам некалькіх апошніх год, трымаючы невялікую гаспадарку, якая сталася галоўным сродкам ягонага існаваньня, бо зь невялікае пэнсіі па інваліднасьці судовыя выканаўцы час ад часу вылічвалі грошы на шматмільённыя штрафы.

Уладзімера Плешчанкі меў хворае сэрца. Але па некалькі разоў на тыдзень ён прыяжджаў у Віцебск і разам зь сябрамі ладзіў пікеты ля так званага "сіняга дому" — раздаваў улёткі ці проста стаяў пад бел-чырвона-белым сьцягам, выкликаючы ў кагосьці зь мінакоў цікаўнасьць ды павагу, а ў кагосьці — пагарду і неразуменьне... Яго ведаў у Віцебску ці не кожны — незалежна ад пасадаў ды палітычных перакананьняў: ягоная постаць каля "сіняга дому" сталася знакавай. Зь ім прыходзілі параіцца або паспрачацца, ягонага хворага сэрца хапала на ўсіх.

Сэрца Ўладзімера Плешчанкі, сябра Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ, спынілася на 57-м годзе жыцьця.

*Паводле радыё "Свабода"*

## Патрэбна дапамога

Кіроўца **Віктар Савіцкі**, што на ўласным транспарце развозіў людзей, якіх выпускалі са сьледчых ізалятараў на Акрэсьціна ў Менску і ў Жодзіна ў сакавікукрасавіку, 28 красавіка трапіў у цяжкую аварыю. Ён да гэтай пары знаходзіцца ў рэанімацыі, і дактары прагназуюць доўгі пэрыяд лекаваньня і рэабілітацыі. Курс рэабілітацыі дарагі. Да таго-ж, у чалавека сям'я, малыя дзеці.

Зьвяртаемся з просьбай да ўсіх каму ён дапамагаў, да ўсіх людзей добрай волі, з просьбай пра ахвяраваньні:

Р/р 3819382101009
275 аддзяленьне,
філіял 500 АСБ "Беларусбанк",
код 601, УНП 100603596

**Раковіч Вользе Ўладзімераўне** з пазнакай "*ахвяраваньне*"

*Паводле "Нашай Нівы"*

***Ахвяраваньне для Віктара Савіцкага можна таксама перадаць праз рэдакцыю "Беларуса".***

# Беларускі Шлях

*Працяг з бачыны 1*

## Доўгі Беларускі Шлях

Падзеіселетняе вясны выявіліся новым паваротам на доўгім беларускім шляху. Новым – бо і шматтысячнае людзкое ўзрушэньне насуперак рэпрэсіям, і прыняцьце лідэра беларускіх дэмакратычных сілаў на найвышэйшым узроўні ў Эўропе, і воля ды вера беларускай моладзі знакавалі сапраўды новы этап нацыянальнага абуджэньня. Паваротам – бо на даляглядзе ўзьнік толькі чарговы пераход зьнясіленага вандраваньня Беларусі да рэальнай незалежнасці, дэмакратыі й нацыянальнага ладу.

Храналёгія беларускага шляху з рабства да свабоды прымушае нас згадаць біблійны выхад – пад кіраўніцтвам Майсея, вялікага Божага прарока, габрайскі народ блукаў па пустыні ў пошуках зямлі абяцанай да тае пары, пакуль не пазбавіўся рабскай сьвядомасьці й не набыў веру ў Бога. Гэтак-жа й Беларусь: праблема нашага зацяглага блуканьня мае не сацыяльнае, не эканамічнае й нават не геапалітычнае, а ў першую чаргу духовае паходжаньне. Сьвядомасьць вызначае быцьцё! Да тае пары, пакуль людзі не ўсьвядомяць сябе нацыяй, адказнай перад Богам за свой супольны лёс, маральны стан і сваю зямлю – мы асуджаныя заставацца заходнім узбалоцьцем расейскае імпэрыі, а ня сэрцам Эўропы.

Уся заходняя цывілізацыя апошніх двух тысячаў гадоў – гэта панарама разьвіцьця, пераламленьня й удасканаленьня асноватворнага хрысьціянскага сэнсу ў розных нацыянальных, палітычных і сацыяльных формах. Мы зьдзіўляемся, адкуль ўсё так чыста й хораша ў Амэрыцы й Брытаніі, у Швэцыі й Чэхіі, у Польшчы ды Аўстраліі. Агульная культура Захаду – грамадзкая, сэрвісная, нават побытавая – гэта проста вынік цярплівага засваеньня прынцыпу "Палюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, усей душой тваёй, усім разуменьнем тваім, а блізкага твайго – як самага сябе" (Лукі 10:27). Непасрэдны вынік веры ў Бога й культываваньня гэтае веры ў самім грамадзтве. Нашыя спробы пабудаваць "па-заходняму" дэмакратыю, рынак, адкрытае грамадзтва й нацыянальную дзяржаву бяз Бога асуджаныя на крах.

Таму асноўныя задачы сучаснай нацыянальнай ідэі – хрысьціянізацыя Беларусі і беларусізацыя хрысьціянаў. Хрысьціянства – і як сыстэма каштоўнасьцяў, і як аснова здаровага нацыянальнага сьветапогляду, і ўвогуле як найэфэктыўнейшы лад жыцьця – павінна стаць альтэрнатывай бездуховаму саўковаму рэжыму й грамадзкаму ўпадку. Так было ва ўсім сьвеце. Так будзе і ў Беларусі. Шчасьлівыя сем'і, здаровыя дзеці, непітушчыя працаўнікі, якія не крадуць і не хлусяць, адказныя і прыстойныя людзі – гэта веручуныя. І найпершая патрэба сёньняшняга часу – надаць такім беларускім хрысьціянам нацыянальнага самаадчуваньня, а ўсяму патрыятычнаму руху, у сваю чаргу, хрысьціянскае сутнасьці. Духовае абуджэньне адначасова з творчай, захапляючай беларусізацыяй здольнае вызваліць у дзесяцімільённым народзе аграмадныя сілы для вырашальнага рыўка. Такім чынам, зараз Беларусі ў першую чаргу патрэбныя ня "самыя правільныя партыі", ня "самыя радыкальныя маладзёвыя рухі" і нават не ўсялякія кааліцыі дэмакратычных сілаў у чарговай канфігурацыі. Галоўная патрэба гэтага пераходу на доўгім беларускім шляху – актыўныя, паўсюдныя й шматвобразныя ініцыятывы, якія-б беларусізавалі й хрысьціянізавалі грамадзтва. Ключавыя паказальнікі дзейнасці такіх ініцыятываў – колькі яшчэ беларусаў за дзень, месяц, год пачалі размаўляць па-беларуску, удзельнічаць у асьветніцкіх кампаніях, наведваць царкву (касьцёл, малітоўны дом), выпісваць незалежную прэсу. Сучасная беларускасьць, як і сучаснае хрысьціянства ў Беларусі зараз настолькі дэталёва распрацаваныя, кшталтаваныя, амалоджаныя, укарэненыя ў інтэрнэце й элітных асяродках, што ані прасавецкая "ідэалёгія", ані папсовая расейшчына ня вытрымаюць канкурэнцыі за душы беларускіх студэнтаў, настаўнікаў, прадпрымальнікаў, вернікаў пры эфэктыўнай арганізацыі кампаніяў. Але пакуль што, нажаль, падобныя ініцыятывы ў Беларусі замыкаюцца ў герметычных або тусовачных супольнасьцях. У выніку велізарны вакуум у мільёнах беларускіх душаў, спароджаны незалежнасьцю, запоўніў не трывалая вера ў Бога й жывая беларушчына, а ўпадніцкі рэлятывізм, разбуральныя субкультуры, імпэрская настальгія або афіцыйная прапаганда.

Вясна-2006 дала надзею на зьмену становішча. Маліт-ва на шматтысячнай плошчы, "Магутны Божа", як пачатак кожнага дня для палаткавага гарадка, тысячы дагэтуль апалітычных вернікаў поплеч з заўсёднікамі вулічных акцыяў; адзіны кандыдат, беларускі патрыёт, які дзень галасаваньня праводзіць і ў праваслаўным храме, і ў касьцёле, які нарэшце зьяўляецца на людзях з жонкаю, і якога прымаюць канцлер Нямеччыны, прэзыдэнты Польшчы й Летувы, палітычная эліта Францыі й Украіны; агучаная на ўсю краіну праграма рэформаў, грунтаваная на прыватнай уласнасьці, інавацыях і мясцовым самакіраваньні – пасьля гэтага ўпершыню за колькі гадоў адчуваеш пад нагамі краіну!

І ў кампаніі 2006 году і пасьля яе ўвесь час муляла вока: рэжым наколькі мог высільваўся, каб абаперціся на добра зацьвярджаны за 15 гадоў падмурак незалежнасьці. Але бясконцыя заклікі "За Беларусь!" у адным флаконе з пустаслоўем пра "государственный суверенитет в союзе с Россией" ды "интернациональную белорусскую нацию" ўжо сьведчаць: адолець мяжу, якая аддзяляе "самабытную Беларусь" ад адроджанае Беларусі, як ні пніся, Лукашэшка ня можа. І, згодна зь непазбежнай лёгікай гісторыі, гэта зробіць ужо нехта іншы. Не аддадзеная ані Крамлю, ані алігархам маёмасьць, пераклюючаныя тэлеканалы, апрацаваная па пэрымэтры ўсіх дзяржаўных межаў масавая сьвядомасьць ужо ёсьць грунтоўным апірышчам на шляху да сапраўднае Беларусі.

Дайсьці да Беларусі – значыць, дайсьці да сэрца кожнага з 10 мільёнаў беларусаў. Можаце самі палічыць, колькі такі шлях складае ў кілямэтрах (адлегласьць будзе вымярацца, пэўна, у дзясятках зямных экватараў). Можна вымярыць гэты шлях у гадзінах або гадох, якія спатрэбяцца на пераконваньне ды раслумачэньне. Можаце падраховаць усіх сваіх знаёмых, хто яшчэ не дайшоў да Беларусі ды вызначыць свой асабісты шлях.

Доўга, доўга атрымліваецца. Але іншага шляху ў нас, як і ў габраяў часоў Майсея, няма. У Беларусі, паводле сьведчаньня Быкава, доўгая дарога дадому. Доўгая – бо, як і біблійных сьвятых, Бог вядзе беларусаў, праз пакаяньні, выпрабаваньні. І адкрыць Сэрца Эўропы можна з той цярплівасьцю й настойлівасьцю, якой пад сілу дасягнуць Валадарства Нябеснага.

## Крыжовы Беларускі Шлях

Калі-б беларускі шлях быў проста працяглым па часе – за цярплівых беларусаў можна было-б не хвалявацца.

Але ва ўсе часы беларускі шлях азначаў перааДоленьне найцяжэйшых пакутаў, болю і зьдзекаў. Наша Адраджэньне ўвесь час, сплываючы крывёю, зьнямоцана брыло праз здраду і акупацыю, Курапаты й Трасьцянец, Хатынь і Берасьцейскую крэпасьць, Чарнобыль і Нямігу.

Вось і падчас сёлетняе кампаніі беларусам давялося адужваць ня столькі адлегласьць, чалавека-гадзіны й стэрэатыпы (што складае зьмест нармальных выбараў), колькі страх, гвалт і ўціск. Кампанія-2006 ішла праз рэпрэсіі небывалага раней размаху; цяжкі крыж непрынцыця, абыякавасьці й працы "за сябе й за тых хлопцаў" цісьнуў на плечы, а вакол – сьвіст і апляўваньне гэткай разьюшанай, нават ашалелай прапаганды па ўсіх афіцыйных каналах, якой не было нават за савецкім часам: "Алькаголікі!.. Наркаманы!.. Вычварэнцы!.. Псыхі!.. Фашысты!.. Тэрарысты!..". Беларусаў зноў білі, прыніжалі, ганьбілі, як асуджанага на ўкрыжаваньне Збаўцу. Бэсьцілі мову, зьдзекліва перакрыўляючы ў агітках, пляжылі культуру, пачынаючы з ахайваньня маладзёвае "Рок-каранацыі" й завяршаючы разбурэньнем Саюзу Пісьменьнікаў, гвалцілі гісторыю, ствараючы міты пра расейскае братэрства, сатанінскі Захад ды "ліныі Сталіна"... Наймацней білі па моладзі – каб з новым пакаленьнем Беларусь не паднялася з каленяў. 23-х гадовага Зьміцера Касьпяровіча, што сарваў чырвона-зялёны сьцяг з будынку Менскага гарвыканкаму, асудзілі на 5 месяцаў за кратамі. Насту Азарку, настаўніцу маладых клясаў зь Нясьвіжу, паэтку й арганізатарку Шоў Беларушчыны, абвінавацілі ў "стварэньні незарэгістраванай арганізацыі" (а гэта зараз 2 гады турмы). 21-гадовага Артуру Фінькевічу, маладафронтаўцу зь Менску, які ўсяго толькі напісаў на плоце "Мы хочам новага!", сьледства прыпісала ўсе графіці ў Першамайскім раёне, налічыла 35 мільёнаў рублёў урону і цяпер пагражае запраторыць у "зону" на 10 гадоў. Спартоўца Сяргея Ляшкевіча са Шчучына, які распаўсюджваў буклеты й календарыкі Мілінкевіча, трымаюць у ізалятары як "баевіка, што рыхтаваў тэракты ў Менску". Маладафронтаўца Паўла Красоўскага з Жодзіна міліцыя расшуквае аж па чатырох артыкулах крымінальнага кодэксу за ... карыкатуры на мясцовых чыноўнікаў, надрукаваныя ў самвыдатаўскім бюлетэні. Нарэшце, спалохаўшыся дзясяткаў тысячаў маладых, што выйшлі на вуліцы 19-25 сакавіка, КДБ распачаў крымінальную справу супраць цэлага руху, яшчэ маштабнейшую за справу Саюзу Беларускіх Патрыётаў: у 12 гарадох Беларусі прайшліператрусы й допыты больш як 50-ці сябраў Маладога Фронту, якіх зьвінавацілі ў "выступе ад імя незарэгістраванай арганізацыі", і кожнаму зь якіх цяпер пагражае па некалькі гадоў турмы.

Жорсткі разбор намётаў на Кастрычніцкай плошчы; зьбіцьцё непаўнагадовых за бел-чырвона-белыя сьцягі; зьдзек над людзьмі на Акрэсьціна; падкідваньне наркотыкаў ды бутэлек пасьля разгрому гарадка перад камэрамі БТ; імітацыя расстрэлу й шпіталь для Вячаслава Сіўчыка як арганізатара бестэрміновае варты на плошчы; ганебныя "суткі" для рэжысэра Валерыя Мазынскага, рэдактара Андрэя Дынька, палітыка Вінцука Вячоркі й соценьняў прыстойных, інтэлігентных людзей; ілжывыя абвінавачваньні ў хуліганстве й брыдкаслоўі для шчырых вернікаў – кожны факт як ляск біча па целе Хрыстовым!..

Бадай, самы цяжкі крыж узваліў на плечы беларускага народу, як гэта ні прыкра, патрыярх Маскоўскі Алексій II: ня гледзячы на заявы назіральнікаў з усяго сьвету пра фальсыфікацыі, нават не чакаючы абвяшчэньня афіцыйных дадзеных ЦВК, ён павіншаваў галоўнага праваслаўнага атэіста са перамогаю.

Але беларусы крыж сакавіка-2006 усё-такі вынесьлі. Дзясяткі тысячаў людзей, нягледзячы на страх, нянавісьць і хлусьню на тыдзень асьвяцілі сэрца сталіцы сотнямі бел-чырвона-белых сьцягоў. І не прапаганда, ня гвалт, а менавіта гэтыя сьцягі, як пуцяводныя агні, як сымбалі Божага ўкрыжаваньня і ўваскрасеньня застануцца ў масавай сьвядомасьці й нацыянальнай гісторыі вобразам Вясны 2006 году.

Гарачыя падзеі тых дзён пацьвердзілі галоўнае хрысьціянскае правіла: вызваленьне адбываецца толькі праз пакуту, шчасьце здабываецца праз боль, а адраджэньню, уваскрашэньню, абуджэньню заўжды папярэднічае крыж. Мы павінны ўзгадаць найважнейшую гістарычную заканамернасьць ужо неадночы праяўленую ў стагодзьдзях: палітычны, эканамічны й культурны росквіт генэруецца пакаяньнем ды ахвяраю народа – і духовымі пераўтварэньнямі. Што далёка хадзіць: курапацкі крыж і аднаўленьне храмаў напрыканцы 80-х, сьцяг Хрыста і заклік "шукаць не каўбасы, а Бога" ўздымалі Беларусь на нашай памяці.

Менавіта таму беларуская нацыянальная ідэя – гэта ідэя Крыжа. Вялікага геапалітычнага скрыжаваньня, на якім між варагаў і грэкаў, Захаду і Ўсходу, Эўропы і Расеі, укрыжаваная наша краіна. "І вазьмі крыж свой, і ідзі за Мною..." (Марка 8:34). Беларусь наследуе Хрысту, аддаючы сябе. Наш бел-чырвона-белы сьцяг з крывёю Ісуса – знак таго вялікага Адкупленьня, якое зьвяла ўсё чалавецтва. Бо ад пачатку Новае эры пакута й ахвяра – закалад будучае перамогі.

Беларуская ахвярнасьць – гэта ня прыкрая гістарычная наканаванасьць, што выклікае шкадобу і дэпрэсію. Гэта – лёс і сэнс Беларусі як вялікага алтара. Краіна, на долю якой за тысячу гадоў выпалі такія страшныя выпрабаваньні, для якой Эвангельле болю і зьдзеку стала штодзённым жыцьцём, для якой нацыянальны сымбалем ёсьць чыстая палатніна з крывёю ўкрыжаванага Збаўцы, мусіць усьведамляць: крыж – дакладная сыстэма каардынатаў для пошуку найвялікшых дабраславеньняў Божых.

## Вялікі Беларускі Шлях

У апошнія паўтары гады стала выясьняцца цікавая геапалітычная акалічнасьць: краіна апошняй дыктатуры ў Эўропе робіцца эпіцэнтрам навінаў у цэлым рэгіёне. Польшча, Украіна, Балтыйскія дзяржавы яднаюцца, каб дапамагчы Беларусі стаць Беларусьсю. Беларусы штомесяц апынаюцца на трыбунах галоўных эўрапейскіх арганізацыяў. Беларуская тэма ажыўлена дыскутуецца ня толькі ў Крамлі, але і ў Брусэлі, і ў Жэневе, і ў Вашынгтоне. Belarus незаўважна разрастаецца да памераў куды больших, чым звычайная сярэднеэўрапейская краіна плошчай у 200 тыс. км2 зь 10 мільёнамі жыхароў. Беларусь сапраўды робіцца сэрцам Эўропы – трапяткім, гарачым, поўным драматызму да болю. Сьвет зноў адчувае тут дрогкае сьпляценьне артэрыяў і венаў, шляхоў і інтарэсаў, сумежжа моваў і канфэсіяў – крыніцу жыцьця ў нетрах пушчаў і гарадоў, у глыбіні страху і грэху, у адчайным біцьці пульсу апошняга эўрапейскага адраджэньня. Нешта падобнае адбывалася ў XVI стагодзьдзі, у Залаты век ВКЛ. Такое ўражаньне, што Беларусь рыхтуецца выбухнуць і зьбірае ў кулак усе сілы, каб зьнішчыць астатняе кубло зла на кантынэнце, каб экспансія беларускасьці ўскалыхнула ўсю Эўропу і сталася ўдарам пахавальнага звону для імпэрскай Масквы.

0,15% тэрыторыі й 0,17% насельніцтва – вось што такое Беларусь на глёбусе. Кропачка. Але-ж колькі падзеяў, ідэяў, надзеяў і людзей сусветнага маштабу сышлося ў гэтае кропачцы! Проста веліч Беларусі разьлічваецца не праз квадратныя кілямэтры ці адсоткі ВУП. У вышэйшай матэматыцы Духа велічыні вымяраюцца інтэграламі куды большага парадку. Невялічкая, сьціплая Беларусь баіцца прызнацца нават самой сабе, што мае Вялікую Нацыянальную Ідэю. Што нічога "нармалёвага" няма ў тых страшных пакутах і ахвярах, якія выпалі на яе долю. Што нічога выпадковага не было ані ў Чарнобылі, ані ў Белавескай пушчы, ані ў Лукашэнку. Што краіна найвялікшае цярплівасьці й найвышэйшае любові ў самым сэрцы Эўропы – гэта пакліканьне. І гэта навечна.

Адсюль, ад нясьмелasьці думкі – і відавочная слабасьць большасьці сучасных "нацыянальных праектаў". Адсюль – кволасьць сёньняшняга дэмакратычнага руху. Усе замяняльнікі нацыянальнай ідэі – і дзяржаўная "ідэалёгія", і побытавы гонар "хвалі сваё", і нават прасунутыя апазыцыйныя нацыяналізм ёсьць усяго толькі бледнымі водблескамі сапраўднай нацыянальнай ідэі. Той адзінай гістарычна й сьветапоглядна апраўданай ідэі, у якой зьвімэтай зьвязаўся Сам Ісус Хрыстос.

"Ісус сказаў яму: Я і Шлях, і Праўда, і Жыцьцё" (Яна 14:6). Вялікі Беларускі Шлях – шлях Божае праўды й Божае ахвяры, шлях з Крыжам Хрыста й пад сьцягам Хрыста – да Самога Хрыста, Ягонае сьвятасьці, дасканаласьці

*Заканчэньне на бачыне 11*

# Новыя кнігі ў бібліятэку беларусазнаўства

Зазначалася ў друку ня раз, што цяжкавата ўлічаць кнігі эміграцыі, калі тыя кнігі друкаваліся ў дзясятку краінаў. Дадамо цяпер, што ладна выходзіць кнігаў пра эміграцыю і ў Беларусі, перадусім у бібліятэчцы Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына", якія гэтаксама праходзяць малазаўважанымі ды часта ня ўлічаюцца. На думку гэтага дапішчыка, "Беларусу" неабходна было-б кнігі, якія тычацца эміграцыі, рэгулярна занатоўваць.

Ніжэй дамо кароценькі агляд некалькіх бясспрэчна цікавых і важных кнігаў, датычных гісторыі эміграцыі.

**Надсан, Аляксандар.** ***Біскуп Чэслаў Сіповіч, сьвятар і беларус.*** **Менск, БелФранс, 2004, 299 с.**




Манаграфія, прысьвечаная жыцьцю й дзейнасьці знанага сьвятара, ад 1960 году біскупа, навукоўца й шырокадыяпазоннага Беларускага Дзеяча – Уладыкі Чэслава Сіповіча.

На аснове архіўных дакумэнтаў, дзёньнікавых запісаў, друкаваных матар'ялаў ды, галоўна, на доўгагадовым блізкім супрацоўніцтве і асабістым сяброўстве айцец А. Надсан дае беларускаму чытачу, асабліва гісторыку беларускага царкоўнага працэсу, выдатнае дасьледаваньне, падмацаванае шматлікімі рэдкімі фатаграфіямі дэ храналягічна ўкладзенай бібліяграфіяй прац біскупа Ч. Сіповіча. Зьместоўна пададзена ў кнізе ранейшыя годы жыцьця а. Ч. Сіповіча, ягоная сям'я, навучаньне й дзейнасьць у Друі, Вільні, а затым студыі й прыняцьцё сьвятарства ў Рыме, далейшая шматгранная праца, якая ўкаранавалася біскупскім санам у 1960 годзе. Айцец Чэслаў Сіповіч стаўся першым беларускім вуніяцкім біскупам ад 1838 году, калі памёр мітрапаліт Язафат Булгак.

Дзейнасьць біскупа Сіповіча праналізаваная на ўсіх ягоных сфэрах актыўнасьці: праца й кіраўніцтва Ордэну Марыянаў, філязофска-душпастырская дзейнасьць, накіраваная на зьмяншэньне непаразуменьняў-канфліктаў між праваслаўнымі й вуніятамі, тлумачэньне каталіцкаму сьвету асобнасьцяў і гістарычнасьці беларускага вуніяцтва ды, бадай, ці не найлюбімейшая дзялянка дзейнасьці Уладыкі – арганізацыя й стварэньне беларускага навукова-дасьледчага цэнтру – бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

Упоруч з багатым, аўтарытэтна апрацаваным матар'ялам пра біскупа Сіповіча і іншых беларускіх сьвятарах і праблемах беларускага вуніяцтва, у манаграфіі пададзена вельмі шмат дэталяў, раз'ясьненьняў й насьвятленьняў пагляды і палітыкі Ватыкану ды кіраўнічага рымa-каталіцкага духавенства да беларускае ідэі, да Беларусі.

Кніга – аўтарытэтнае дасьледаваньне, важны ўклад у дасьледаваньне беларускае каталіцкае царквы ў гісторыі.

**Лапіцкі, Мікалай.** ***У служэньні Богу й Беларусі.*** **Нью Ёрк-Варшава. БІНІМ, Інстытут Славістыкі Польскай Акадэміі Навук. 2005. 672 с. Укладаньне, прадмова й камэнтары Юрыя Гарбінскага. Уступнае слова Вітаўта Кіпеля.**




Др. Юры Гарбінскі, ведамы беларускаму грамадзтву як аўтарытэтны навуковец, аўтар колькіх працаў па разьвіцьцю рэлігійнае думкі ў Беларусі, гэтым разам прысьвяціў сваё дасьледаваньне рэлігійна-грамадзкаму жыцьцю эміграцыі. На аснове архіўных дакумэнтаў Вільні й Варшавы дасьледчык прасочвае шкаленьне й пачаткі душпастырска-грамадзкае дзейнасьці аднаго зь віднейшых рэлігійных дзеячоў эміграцыі – айца Мікалая Лапіцкага.

Айцец М. Лапіцкі вучыўся ў школе ў Вялейцы, закончыў Віленскую духоўную сэмінарыю, а затым Багаслоўскі факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту. Ад сэмінарскіх гадоў а. Лапіцкі быў уцягнуты ў беларускае грамадзкае жыцьцё. Атрымаўшы сьвятарскі сан і багаслоўскія веды, малады сьвятар умацаваўся ў жаданьні ажыцьцявіць ідэю Аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Беларусізацыя праваслаўя – першы крок сьвятара М. Лапіцкага. Вось як аб гэтым успамінае Антон Шукелойць – цяперашні старшыня БАЗА: "Не магу не прыгадаць аднаго цікавага факту з рэлігійнага жыцьця ў Ашмяне, 1933-1934 г.г. Вось-жа бацькі вучняў беларускай каталіцкага веравызнаньня загадалі сваім дзецям падтрымаць прэфэкта праваслаўнай веры з гімназіі, і яны сыстэматычна наведвалі нядзельныя службы ў царкве, каб паслухаць а. Мікалая Лапіцкага і яго пропаведзі ў беларускай мове. Трэба памятаць, што ў тыя часы такія рэчы каталікам былі сурова забароненыя".

Айцец М. Лапіцкі быў адным з арганізатараў і кіраўнікоў Сабору Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Менску ў 1942 годзе, а на эміграцыі рашучым працаўніком далучэньня былога Беларускага Япіскапату да Расейскай Зарубежнай Царквы. У ЗША ён стаўся першым ініцыятарам стварэньня Беларускага Япіскапату ва ўлоньні апекі Канстантынопальскага Патрыярха.

Кніга складаецца з наступных разьдзелаў: малітвы й казаньні (пачынаецца малітваю, прысьвечанай 54-м угодкам БНР), акадэмічныя працы а.Лапіцкага; публіцыстыка – артыкулы, зацемкі на бягучыя й пякучыя тэмы беларускага эміграцыйнага жыцьця; лісты; стужкі памяці, дзе зьмешчаныя ўспаміны Я. Каханоўскай, А. Шукелойца, В. Кіпеля, Н. Запруднік, Я. Запрудніка, В. Цярпіцкага, М. Сенькі, А. Махнюка, І. Касяка, успаміны сямейнікаў – Лёлі Касоўскай, Жоржа Лапіцкага, Рагнеды Аляхновіч (пляменьніцы ў Менску) ды ўнукаў. Мэмуарна-аналітычная частка ўлучае таксама аналягічныя артыкулы прафэсара Томаса Бэрда й пляменьніка Волтэра Лапіцкага.

Іншыя разьдзелы – дакумэнты, фатаздымкі.

Трэба адцеміць, што гэты сьвятар і дзяяч паралельна з душпастырскай і грамадзка-палітычнай дзейнасьцю яшчэ пры жыцьці збудаваў аж тры храмы: на Бацькаўшчыне, у Эўропе і ў ЗША (сёньняшняя царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Саўт Рывэры, штат Нью Джэрзі). І анатаваны тут том - салідны помнік дзейнасьці беларускаму сьвятару.

Неабходна таксама падкрэсьліць факт актыўнага ўдзелу ў падрыхтоўцы і друку выданьня сям'і айца Лапіцкага, а перадусім Лёлі Касоўскай і Жоржа Лапіцкага.

**Юрэвіч, Лявон.** ***Мэмуары на эміграцыі. Крыніцазнаўчае дасьледаваньне.*** **Мінск, 2005. 329 с.** Кніга прысьвечаная сьветлай памяці Зоры Кіпель.




Прадмова да кнігі напісаная вядомым вучоным з Санкт-Пецярбургу Міколам Нікалаевым, які дае высокую ацэну працы Л. Юрэвіча й прыгадвае чытачу, што беларуская мэмуарыстыка сваімі пачаткамі сягае ў 16-17 стагодзьдзі, аднак, нажаль, фактычна не аналізаваная. Дадамо ад нас – і ня ўведзеная ў беларускі інтэлектуальны кантэкст.

Дасьледаваньне мэмуарыстыкі Лявонам Юрэвічам як раз і зьяўляецца піянэрскім у беларускай навуцы, бо ён вышуквае і аналізуе беларускасьць твору, пісьма. "Мэмуары на эміграцыі" Л. Юрэвіча хоць у нечым пераклікаюцца зь ягонай ранейшай кнігаю "Беларускае мэмуарыстыка на эміграцыі (БІНІМ, 1999), але гэта бясспрэчна новае дасьледаваньне; гэта выданьне сапраўды крыніцазнаўчае, ключ для далейшых дасьледаваньняў у шмат якіх галінах беларусазнаўства.

Пасьля абшырна дакумэнтаванага (панад 400 спасылак!) аналізу беларускае мэмуарыстыкі аўтар дае дасьледніку панад 100 старонак аналізаванае бібліяграфіі – інакш кажучы, аўтарам былі прачытаны кожны артыкул і занатаваныя ўсе прозьвішчы, згаданыя ў тым артыкуле. Прыкладам, пазыцыя "Крушынскі – Сталінізм 30-х гадоў.." утрымлівае 30 прозьвішчаў, а ў артыкуле В. Карасэвіча "Канцэрт памяці.." – 15 прозьвішчаў.

Бібліяграфія, укладзеная Л. Юрэвічам, падзеленая на наступныя тыпы: артыкулы-зацемкі ў газэтах "Бацькаўшчына" і "Беларус", пасьмяротныя ўспаміны (нэкралёгі), уласна ўспаміны. Адным словам, проробленa вялікая праца, дадзеная прылада ў рукі будучага дасьледніка.

У дадатак да бібліяграфічнае часткі ў кнізе выдрукаваныя творы Уладзімера Дудзіцкага й лісты Вольгі Таполі.

Кніга – выдатны дапаможнік дасьледнікам беларусазнаўства, новы матар'ял літаратуразнаўцам ды шырокаму чытачу.

**Юрэвіч, Лявон.** ***Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: гісторыя газэтаў "Бацькаўшчына" і "Беларус", 1947-2000.*** **Мінск, 2006. 254 с.**




На аснове архіўных матар'ялаў, якія захоўваюцца ў Нью Ёрку й Мюнхене ды ўспамінах супрацоўнікаў і дапішчыкаў ды рэдактараў газэтаў у розныя часы, аўтар упершыню ў беларусазнаўстве стварае дасьледаваньне-гісторыю нацыянальных газэтаў – "Бацькаўшчыны" (Нямеччына, 1947-1966) і "Беларуса" (ЗША, 1950 – выданьне працягваецца).

Напачатку дасьледаваньня аўтар прысьвячае пару дзясяткаў старонак перадгісторыі газэтаў, што фактычна зьяўляецца кароткай гісторыяй беларускага эміграцыйнага пэрыядычнага друку. Затым Л. Юрэвіч дэтальна разглядае пачатак газэтаў, як фармавалася эканамічная база, рассылка, адміністрацыя і, галоўнае, рэдакцыя і дапішчыкі, што ва ўмовах эміграцыі было нялёгка стварыць.

Шмат увагі прысьвечана ўплывам газэтаў на беларускае грамадзтва ды ўплывам розных рэдактараў на зьмест газэтаў. Л. Юрэвіч выдатна адзначае, што амаль усё ў газэтах рабілася на грамадзкіх пачатках, але тым ня менш узровень газэтаў адпавядаў вышэйшым стандартам пэрыядычнага друку. Цікавая дэталь пададзеная аўтарам манаграфіі аб умовах працы рэдакцыйнага калектыву зь дзёньніку Зоры Кіпель, якая рэдагавала газэту ў 1990-х гадох:

"16 студзеня 1992 г. Схадзіла ў друкарню. Забрала ўвесь набраны матар'ял. На двары страшэнны холад. Пазваніла Янку, што матар'ялу на нумар хопіць. "Ламаць" буду дома.

20 студзеня 1992 г. Званіў Расьціслаў Завістовіч. Назначаны новы амбасадар у Менск. Запруднік хутка патрабуе больш матар'ялу. Званіла ў Airline, каб напісаць нешта пра Belarus Aeroflot. Газэту зрабіла – матар'ялу хапіла. У міжчасе памылак аж 4 машыны бязлісны! Матар'ял, які застаўся, пойдзе ў наступны выпуск.

25 чэрвеня 1992 г. Вітаўт завёз увесь матар'ял у друкарню. Янка выдатна падкінуў "дробязі". Сп. Шукелойць ужо быў у друкарні. Сп. Запруднік затрымаўся на працы, але ён пазваніў у друкарню, каб матар'ял набралі. Пасьля працы пайшла і я ў друкарню. О, шчасьце!!! Увесь матар'ял быў набраны. Я была вельмі й вельмі радая, бо гэта азначала, што за weekend газэта будзе зламаная. Нават калі прыедзе Алеся, я буду мець цэлую пятніцу для працы.

9 ліпеня 1992 г. Атрымалі ліст ад Тамары аб выставе дзіцячых малюнкаў – матар'ял для газэты. Янка Запруднік даў вельмі шмат матар'ялу таксама. Ён, відаць, закончыў сваю кніжку й вяртаецца зноў у газэту. Выдатна.

24 студзеня 1993 г. Званіў сп. Шукелойць. Матар'ял набраны. Сёньня ў друкарні зьбіраемся ўсе – Янка, Вітаўт, сп. Шукелойць і я. Газэта скончаная. Першым з друкарні паехаў Янка, было каля 8:30 (яму найдалей), потым мы зь Вітаўтам, а сп. Шукелойць яшчэ застаўся "кінуць вокам". Часта апошні агляд бывае важным! Колькі разоў здаралася!".

І гэта вытрымка толькі з аднаго дзёньніка. Бясспрэчна, што падобныя дзёньнікі маглі-б быць і ў С. Станкевіча, і ў Я. Запрудніка, і, напэўна, у сёньняшняга рэдактара Марата Клакоцкага: выданьне працягвае жыць у XXI стагодзьдзі, а ўмовы працы не мяняюцца!

***Заканчэньне на бачыне 7***

# Рэцэнзія

А. Язэп Гэрмановіч, *Кітай-Сібір-Масква. Успаміны*, (Менск-СПб, Неўскі Прасьцяг, 2003) ISBN 5-94716-033-1

А. Л. Гарошка, *Навука і Рэлігія*, (Spolocnost Knazov Marianov na Slovensku — Выдавецтва Айцоў Марыяна, Варшава, Дретома-Друя-Варшава, 1994). ISBN 83-7119 031-X

У 2003 годзе была перавыдадзеная кніга слыннага беларускага сьвятара, культурнага дзеяча і паэта, памёрлага на эміграцыі ў Лёндане ў 1978 годзе, а. Язэпа Гэрмановіча "Кітай-Сібір-Масква". Гэтая падзея мела-б усе шанцы стацца сапраўдным крокам да вяртаньня чытачу ў Беларусі раней невядомай спадчыны а. Гэрмановіча, калі-б не некаторыя дзіўныя дэталі, якія прымушаюць зірнуць на гэтае выданьне і, разам з тым, успомніць зробленага колькі год раней факсімільнага перадрук кнігі а. Льва Гарошкі "Навука і Рэлігія".

### Выдавецтва, месца выданьня, друк

Першая старонка (фарзац)* мае дзьвюхмоўнае ангельска-беларускае прысьвячэньне дзе гаворыцца пра падтрымку праекту выдавецтва "Сафія" грэка-каталіцкай парафіі ў Полацку Правінцыяй Сьв. Казіміра Айцоў і Братоў Марыянаў з Чыкага, ЗША**. Старонка 3 падае ў выходных дадзеных Менск і Санкт-Пецярбург, а выдавецтва — "Неўскі Прасьцяг". Дзе зьнікае Менск на старонцы 4 — нам невядома. Як, уласна кажучы, і адкуль прыходзіць (ці не з падзякі за дапамогу менскага ГА "Дыярыюш" і "сайту маладых католікаў"?). Тут фігуруе і Санкт-Пецярбург, і нават Друя (у *copyright*). Такім чынам, мы маем Полацак, Менск і Санкт-Пецярбург як магчымыя месцы выданьня, а выдавецтва - можна выбіраць паводле ўпадабаньня - "Неўскі Прасьцяг" (шмуц-тытул) ці полацкую "Сафію" (тэкст на фарзацы). Надрукаваная кніга ў Волагдзе, Расея.

Варта адзначыць, што выдаўцы называюць свой прадукт "першым у Беларусі выданьнем". Аднак ані Санкт-Пецярбург, ані Волагда не ўваходзяць у беларускія этнаграфічныя межы нават паводле самых патаемных мараў беларускіх "правых радыкалаў".

Рэпрынт "Навукі і Рэлігіі" а. Гарошкі зроблены ня лепей. Выдаўцом значыцца Супольнасьць Айцоў марыянаў у Славакіі (Дретома), "рэалізацыя выданьня" — варшаўскае выдавецтва Айцоў Марыянаў. Адкуль на тытульным аркушы зьявілася ДруЯ? Ці не з мэтай хутчэй палітычнай — стварэньне легенды пра беларускасьць Друйскага кляштару? Дзе быў зьдзейснены друк — вялікая таямніца.

### Зьмены, фактычныя памылкі і недакладнасьці ў камэнтарах

Той, хто хоць калі-небудзь чытаў творы а. Гэрмановіча, можа пацьвердзіць, што слова "Панна" ў стасунку да Багародзіцы ён не ўжываў. Узяўшы віленскае выданьне 1934 году "Канстытуцыі" айцоў марыянаў па-беларуску ў перакладзе з лаціны а. Гэрмановіча можна на тытульным аркушы прачытаць назву кангрэгацыі марыянаў "непавіннага пачацьця найсьвяцейшай *Дзевы* (выдзелена мною —*Л.П.*) Марыі".*** Шток-ж мы бачым тут? Да прыкладу, на старонках 31 і 168 марыянскага выданьня "Кітай — Сібір — Масква" Багародзіцца названая Паннаю, а ў адпаведных месцах аўтарскага арыгінальнага выданьня (старонкі 25 і 162) мы знаходзім Дзеву. Нідзе рэдактар тэксту не робіць заўвагу пра зробленую зьмену. На пытаньне наколькі этычна карэктаваць аўтара пасьля ягонай сьмерці і нават не гаварыць пра гэта — адказаць можна і не маючы філязофска-багаслоўскай адукацыі. Ды і сам факт замены слова Дзева на Панна нагадвае старыя савецкі звычай пісаньня слова Бог з малой літары нават там, дзе аўтар ўжываў вялікую — з пэўных ідэалягічных матываў.

Бібліяграфічная даведка, слова ў слова ўзятая з кнігі Гарбіньскага і Туронка****, не была праверанаю рэдактарам выданьня і паўтарае памылкі вышэйназваных аўтараў. Так а. Гэрмановіч быў рэдактарам часапісу "Божым Шляхам" не з 1975 па 1977, а з 1964 па 1974 гады.

У прысьвячэньні гаворыцца пра паходжаньне а. Гэрмановіча з Друйскага кляштару. Насамрэч а. Язэп, народжаны ў Гальшанах, стаў сьвятаром на добры дзясятак гадоў раней за заснаваньне гэтага манастыру, а сьвядомым і актыўным беларусам — нават у сэмінарскія гады, калі пра аднаўленьне біскупам Матулайцісам кангрэгацыі марыянаў ён наўрад ці мог нават ведаць.

У сваёй прадмове Я. Трацяк (стар. 6) кажа, што а. Гэрмановіч "у 1932 годзе добраахвотна выехаў у Харбін". Наколькі дабраахвотны быў гэтыя выезд, можна зразумець зь ліста самога а. Язэпа да біскупа Бучыса, генэрала марыянаў, датаванага 30.4.1931 году: "У справе майго магчымага выезду ў Харбін... поўнасьцю паддаюся волі Вашай Экселенцыі, як майго беспасрэднага кіраўніка... кожную місію, нават найбольш прыкрую (падкрэсьлена мной —*Л.П.*), прыму..."***** Айцец Гэрмановіч згадзіўся на ўдзел у Харбінскай "крцыяты" толькі з абавязку так званага "законнага паслушэнства" — патрабаваньня безварункавага падпарадкаваньня волі свайго манаскага начальства, якое аказалася далёка не чулым да патрэбаў беларусаў, бо ахвяроўвала лепшых зь іх дзеля ідэі навяртаньня Расеі й расейцаў на каталіцтва.

Таксама нельга казаць, што польскія ўлады закрылі Друйскі кляштар. Яны проста выгналі адтуль законнікаў-беларусаў, паставіўшы на іх месцы польскіх законьнікаў-марыянаў, якія не ўяўлялі аніякае небясьпекі палянізацыйнай палітыцы ўраду эндэкаў і арцыбіскупа Ялбжыкоўскага.

Яшчэ адна заўвага сп. Трацяку. Лёнданскі Марыян Гаўз (Marian House) не называецца і не перакладаецца як "Дом аа. Марыянаў", а як "Марыйны дом", ня гледзячы на тое, што да сярэдзіна 80-х гадоў частка сьвятароў там належала да марыянаў. Сёньня ў Марыян Гаўзе й надалей знаходзіцца беларуская царква, а марыянаў няма ўжо каля дваццаці год.

### Права на інтэлектуальную ўласнасьць

Як айцец Гэрмановіч, так і айцец Гарошка ніколі ня ставілі ў сваіх кнігах знаку аўтарскага права. Як абедзьве кнігі сталіся ўласнасьцю аа. Марыянаў — невядома. У перавыданьні "Кітаю..." — аўтарскія правы на тэкст раптам набывае *Кляштар Марыянаў у Друі*, а ў рэпрынце "Навукі і Рэлігіі" сярод выходных дадзеных можна адшукаць спасылку на аўтарскае права айцоў Марыянаў з Рыму, напісаную чамусьці па-ангельску і па-італійску (Copyright by Padri Mariani, Roma).

У чым палягае праца рэдактара рэпрынтнага выданьня "Навукі і Рэлігіі" — ці ў напісаньні *Біграфіі (sic.) Аўтара*, уціснутай паміж сьпісам імёнаў і errata арыгінальнага тэксту, ці ў надаваньні айцам марыянам аўтарскіх правоў? Дый, які быў сэнс перадрукоўваць тэкст, да якога прыкладзеныя некалькі старонак заўважаных памылак? Ці не было-б у такім разе рацыянальней адрэдагаваць гэты тэкст і зрабіць новае выданьне? Тым больш што выдаўцы не маглі ня ведаць пра большую частку накладу першага выданьня, якое да гэтага часу захоўваецца ў лёхах Скарыніні ў Лёндане ў вельмі добрым стане і якую бібліятэка, па-просту, ня мае сродкаў, каб перавезьці ў Беларусь. Тое самае і з накладам першага выданьня "Кітай, Сібір, Масквы", якое даводзіцца адпраўляць у Беларусь па некалькі асобнікаў з рознымі людзямі. Напэўна, перавезьці гэтыя кнігі ў Беларусь каштавала бы меней, чым перавыдаваць іх.

### Прафэсыйная этыка і карэктнасьць у стасунках з калегамі

У пляны выдавецтва "Беларускі кнігазбор" ўваходзіла да нядаўняга часу выданьне кнігі "Кітай, Сібір, Масква"******. Пляны гэтага выдавецтва ня ёсьць камэрцыйнай таямніцай і зьяўляюцца адкрытай для публікі інфармацыяй. Зазвычай прафэсыйная этыка не дазваляе руйнаваць пляны калегаў, якія напэўна ўжо рыхтавалі "Кітай, Сібір, Маскву" да друку (г. зн. выдаткавалі на гэта працу і грошы). Выданьні "Кнігазбору" адрозьнівае салідная падрыхтоўка, суправаджэньне крытычным артыкулам і камэнтарамі. Шкада, але дылетанцтва, як гэта бывае ў нас досыць часта, апярэдзіла. Застаецца толькі спадзявацца, што "Беларускі кнігазбор" усё-ж выдасьць гэтую кнігу належным чынам — з павагаю да аўтара, калегаў і чытачоў.

*Л. ПІНЧУК*

* Заўвага: выдаўцы пранумаравалі старонкі пачынаючы ад форзаца. Такім чынам тут шмуц-тытул мае нумар 3.

** "The St. Casimir Province of the Marian Fathers and Brothers (M.I.C), Chicago, USA, is pleased to support the project of the Editorial Committee "Safiya" of the Greek-Catholic Parish in Polatsk, to publish the first edition in Belarus (падкрэсьлена мной — Л.П.)..."

*** Konstytucyja Kongregacyi Ajcou Maryjanau pad nazovam Niepavinnaha pacaccia najswiacieisjaj Dziewy Maryi. - Wilnia, Kostam a.a. Maryjanau u Drui, 1934.

****1 J. Garbinski, J. Turonek. Bialoruski ruch chrzescijanski XX wieku, Siownik biograficzno-bibliograficzny. – Warszawa: Slawistyczny Osrodek Wydawniczy, Polska Akademia Nauk, 2003, st. 129.

***** Цытуецца паводле: А. Надсан. Друя і Грэка-каталіцкая царква на Беларусі, 1924 - 1938. - Лёндан: Божым Шляхам, 2001, с. 34.

****** Гл.: http://bk.knihi.com/plan.html

---

*Заканчэньне з бачыны 6*

Манаграфія, апроч багатае бібліяграфіі, вельмі грунтоўна ўдакумэнтаваная статыстычнымі дадзенымі, лістамі падпішчыкаў, рэдактараў ды біяграфічнымі дадзенымі шмат якіх беларускіх эміграцыйных дзеячоў. Слоўнік псэўданімаў і крыптанімаў на старонках эміграцыйнага друку, укладзены Л. Юрэвічам, - выдатны інструмэнт для вывучэньня эміграцыі.

Бясспрэчна, гэтая кніга — навіна ў дасьледчым беларусазнаўстве ды каштоўны ўнёсак у аналіз вывучэньня беларускае культуры і нацыянальна-палітычнага станаўленьня.




***Каханы горад. Зборнік эміграцыйнае ваеннае прозы.* Мінск, 2006. 369 с.**

Назовам для кнігі скарыстаны назоў аднаго з Адамовічавых твораў, прысьвечаных гораду Менску. Акрамя гэтага, у кнізе выдрукаваныя "Тут не Масква", "Менску", "Чорная бель" А. Адамовіча, "Запіскі Чужанінава" Л. Савёнка, "Яно" Я. Юхнаўца. Укладальнік зборніка Л. Юрэвіч, прадмова Вітаўта Кіпеля. Прадмоўца — жыхар гораду Менску ваенная пары — прыпамінае, як і што чыталася ў той час, а мастацкія творы, асабліва Л. Савёнка, малююць вобраз акупаванага Менску. Зьмешчаная ў кнізе проза дае добрае ўяўленьне аб прозе эміграцыі.

***Эквівалент. Зборнік эміграцыйнай гістарычнай прозы.* Мінск, 2005. 409 с.**

У зборнік укладаньня Л. Юрэвіча ўвайшлі творы Юркі Віцьбіча, С. Хмары, У. Дудзіцкага, А. Адамовіча, М. Цэлеша, Я. Юхнаўца, У. Случанскага, У. Сядуры, а загаловак узяты з аднайменнага апавяданьня Васіля Быкава, таксама ўлучанага ў зборнік і напісанага нашым клясыкам на эміграцыі. Зборнік тэматычна ахоплівае творы, якія малююць гістарычную Беларусь — Вялікае Княства Літоўскае, жыцьцё краіны пад савецкай акупацыяй. Слушна заўважае ўкладальнік, калі піша: "марна будзе шукаць малюнкі замежных краявідаў"; чытачу падаецца гісторыя Беларусі, асэнсаваньне нацыянальнае годнасьці ў гістарычным працэсе.

Выданьне гэтае кнігі — выдатная праца для азнаямленьня землякоў на Бацькаўшчыне з гістарычнай творчасьцю пісьменьнікаў-эмігрантаў.

***Месца выданьня — Парыж. Выбраныя старонкі часапіса "Моладзь" (1948-1954).* Мінск, 2004. 443 с. Прадмова Міхася Наўмовіча, укладаньне Міхася Скоблы.**




Кніга — зборнік артыкулаў, перадавіцаў, успамінаў, мастацкіх твораў, што друкаваліся ў парыскім часапісе "Моладзь", органе БНАМ — Беларускае Незалежніцкае Арганізацыі Моладзі. Арганізацыя была дзейная ў Францыі ды яднала як студэнцкую, гэтак і працоўную моладзь, што апынулася ў Францыі па Другой Сусьветнай вайне.

У прадмове і ўспамінах Міхась Наўмовіч, адзін з пінэраў беларускага грамадзкага жыцьця ў гэтай краіне, малюе арганізацыйныя крокі і падае багата дэталяў аб беларускіх дзеячах, асабліва аб Янку Філістовічу — рэдактару "Моладзі".

Выдрукаваная кніга выдатна паказвае, чым цікавілася тагачасная беларуская моладзь, як брала ўдзел у нацыянальным руху, як паглыбляла свае веды ў беларусістыцы. Пры аналізе часапісу кідаецца ў вочы тая акалічнасьць, што амаль ва ўсіх краінах пасяленьня й дзейнасьці нашае эміграцыі дзейнасьць моладзі акрэсьлівалася асобнымі арганізацыйнымі рамкамі. Моладзь дзеяла паралельна з агульнай нацыянальнай дзейнасьцю. У Намеччыне гэта быў скаўтынг, у Ангельшчыне — "Дванаццатка", у ЗША — некалькі арганізацыяў моладзі.

Дасьледчык зможа шмат скарыстаць з кнігі — з залучаных артыкулаў і фатаздымкаў.

*В. К. З.*

# З жыцьця беларусаў Канады

## Беларуская суботняя школа ў Атаве

Прыехалі мы ў Канаду ў 2003 годзе да сваіх дзяцей і ўнукаў. Усё жыццё ў Беларусі адпрацавалі настаўнікамі. Я скончыў фізыка–матэматычны факультэт пэдагагічнага інстытуту. За сваё працоўнае жыцьцё ў школе, апрача фізікі й матэматыкі, даводзілася выкладаць розныя прадметы з-за недахопу настаўнікаў-спэцыялістаў. Жонка мая, Даната Генрыхаўна, працавала настаўніцай пачатковых клясаў і вяла ў школе танцавальны і харавы гурткі. Працавалі ў базавай, 9-гадовай школе, дзе ўсе прадметы выкладаліся на беларускай мове.

Калі прыехалі ў Атаву, нам прапанавалі арганізаваць беларускую суботнюю школу, што мы і зрабілі ў лютым 2004 году. І, такім чынам, школа існуе ўжо трэці сэзон. Вывучаем беларускую літаратуру, чытаем паэмы клясыкаў беларускай літаратуры Якуба Коласа і Янкі Купалы, творы Васіля Быкава і Уладзімера Караткевіча, іншых беларускіх паэтаў і празаікаў, каб не забыць роднай мовы. Я займаюся таксама матэматыкай і фізыкай з вучнямі старэйшых клясаў. Па гэтых прадметах маю шмат цікавай і займальнай літаратуры, якую вучні вельмі любяць. Многа рашаем цікавых задач, галаваломак, матэматычных фокусаў. Самае галоўнае – надаем увагу найперш школьнаму курсу матэматыкі, што дазваляе вучням упэўнена спраўляцца з тэстамі ў школе.

Даната Генрыхаўна вучыць дзяцей малодшага ўзросту, якім ад 5 да 8 гадоў. Самыя маленькія вучацца размаўляць па-беларуску, бо яны дома больш размаўляюць на ангельскай мове, так як нарадзіліся яны ў Канадзе, а некаторыя і ў Англіі. Старэйшыя зь іх могуць чытаць ужо і апавяданьні на беларускай мове, а меншыя чытаюць пакуль толькі словы ды сказы. Нельга забываць роднай мовы, на якой размаўлялі нашыя продкі, дзе-б мы ні жылі. Дзеці любяць маляваць, а найбольш сьпяваць і танцаваць.

Часта вучні нашай школы радуюць сваімі канцэртамі нашых суайчыннікаў, якія зьбіраюцца на сьвяты, арганізаваныя Згуртаваннем Беларусаў Канады. Вучні выступаюць зь вялікім поспехам. Рыхтуе іх Даната Генрыхаўна пры актыўным удзеле іхных бацькоў. Дзеці сьпявалі песні "Ходзікі", "Люблю наш край", выконвалі танцы "Бульба", "Беларускую польку" ды іншыя. Дэкламавалі патрыятычныя вершы. А на апошнім навагоднім сьвяце, апрача песень, танцаў і вершаў, выступілі і юныя музыканты на піяніна Агата і Ніна Логвін, Алёша Ціпенка, Паўліна Шамецька. Потым была выканаая песьня-танец "Сьняжынкі", у вельмі прыгожых беленькіх уборах.

Апрача гэтага вучні выступілі зь вялікім поспехам 28 лістапада 2004 году на славянскім дзіцячым канцэрце ў Музеі цывілізацыі, дзе выступалі дзеці польскай, расейскай, баўгарскай і славацкай нацыянальнасьцяў.

Хочацца сказаць вялікі дзякуй бацькам С. і Ю. Логвіным, О. і Ю. Пелюшонкам, У. і Ю. Шамецькам, Л. і Ю. Ціпенкам – за прыгожыя нацыянальныя беларускія строі і, наогул, за іх добрасумленныя адносіны да школы. Вялікі дзякуй Шамецька Уладзі, якая заўсёды суправаджае канцэрты дзяцей цудоўнай музыкай на скрыпцы.

Яшчэ хачу спыніцца на наведваньні вучнямі школы. Вышэй названыя бацькі, а таксама Т. і С. Шлык рэгулярна прывозяць сваіх дзяцей у школу, і за гэта мы вельмі ўдзячны ім.

Хацелася-б толькі, каб у нашай школе было больш вучняў. Прыязджайце да нас – не пашкадуеце. А кантынгент у нас розны, ад 4 год да 9-й клясы. Займаемся з 9-й да 11.30 раніцы. Наш адрас: *школа Dr. Roy Kennedy, 919 Woodroffe Ave.*

***П. С. МУРЗЁНАК, настаўнік***





## *Пётр МУРЗЁНАК*

# ВЕРШЫ

### ХАЧУ

Жыцьцём я поўным
Пражыць хачу,
З гадамі поўніць
Сваю душу.

Кахаць усім сэрцам,
Любімым быць,
І лёс шчасьлівы
Дзяцям здабыць.

Любіць прыроду,
Любіць бацькоў,
Свайму народу
Служыць сто гадоў.

Сьвятло ўсім несьці
І цемру гнаць,
Каб вольныя песьні
Маглі вы сьпяваць.

### ARS LONGA VITA BREVIS EST

Вось дзень прайшоў яшчэ адзін,
Забраўшы тысячы хвілін
З таго кароткага жыцьця,
Пражыць якое мушу я.

Мне неба вызначыла час
І нарадзіцца, і прайсьці
Выпрабаваньні сотні раз,
І сэнс жыцьця свайго знайсьці.

Што-б, дзень ты сьветлы, не прынёс –
Удачу, радасьць ці тугу,
Зьдзяйсьненьне мар, адкрыцьцяў стос –
Табе адно сказаць магу:

Удзячны, што са мной ты быў,
Імгненьне вечнасьці дзяліў,
І сьведкам быў малых падзей,
Што доўга будуць грэць людзей.

### ВУЛІЦА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Узьляцеў аж на пятнаццаты паверх
І ўся канадзкая сталіца пада мною.
О сябра мой, ужо-ж ты мне павер
Сюды закінуты уласнаю рукою.

Імчаць машыны па Каралеўскай Вэй
А ўпоперак - па Карлінг-стрыт
І ўдалечы ад вуліцы маёй
Прайшоў і гэты вечар, як папярэдніх
дзвесьце сорак тры.

Дом 33, што на Максіма-"стрыт"
Пакінуў не на месяц, назаўсёды.
Ў гасцях цяпер пачую праз гады
Гаворку старажытнага народу.

Сюды увысь мясцовых вуліц шум
Ледзь-ледзь да майго слыху далятае,
І ў шэрагу маіх бясконцых дум
Толькі крыху знаёмаму адпавядае.

### ПОЛАЦАК ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

Царква Маці Божай
З Жыровіч стаіць,
З іконаў пан Божа
У душы глядзіць.

Чытае пра лёсы
Набожных людзей,
Пра родныя плёсы,
Сьвятло іх надзей.

Што толькі й ўзялі –
Дык жменьку зямлі,
Сафію-б забралі,
Каб тое змаглі.

Як плачуць іх сэрцы –
Сустрэўшыся зь Ім,
Гудзе звон і б'ецца
Пад небам чужым.

### МАЛІТВА

Падзелены людзі, магутны Божа,
На левых каталікаў, правых славян.
А хто-ж народу майму дапаможа,
Жыве адна ў ім душа хрысьціян?

Сутанай чорнай прыкрыўшыся божай,
Яе на кавалкі ірвуць між сабой,
Зь імі сатрапы, юды і "бомжы"
Прад светам без сораму чыняць разбой.

Ўжо тысячу год як цябе ваююць
Ці то крыжаносцы, ці то з-пад Балкан,
Міра ня хочуць, людзей не шкадуюць,
І кожны табой хоча правіць як пан.

Слаўны наш Божа, дай людзям слова,
Веру й надзею адзінай сям'і,
Сілы падняцца і вызваліць мову
Душу яе больш, каб ніхто не дзяліў.

### НАВАЛЬНІЦА

Агнём неба палыхае,
Хмарка бокам праплывае.
Нас сягоньня не чапае,
А яе мы так чакаем.

За гарой дзесь палівае –
Зямля будзе з ураджаем.
А ў нас з вясны сухая -
Не была-б зусім пустая.

Чаму Бог нас зноў мінае?
Часам Янка разважае
І на лёс ўсё ківае,
Цара-бацьку ўспамінае.

А вадзіца, як жывая,
У рачулцы прабягае.
Ён вядром яе чарпае
І ў гародзік свой цягае.

Працавіты рукі мае,
Адпачынку ім не дае.
Час на думкі пакідае
Толькі, як сябе пытае.

"Калі-ж помпу я прыдбаю?
І дазвол ці атрымаю?
Як яшчэ зусім трываю?
Чаму радасьці ня маю?"

Зноў далёка грымае ...
"Можа заўтра завітае?"
Янка вёдры падбірае,
Плеч сваіх не распраўляе.

# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

✉ 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №6 (488)


# Гадавы справаздачна-выбарчы сход

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 21 травеня адбыўся справаздачна выбарчы сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА.

Напачатку сходу была абраная выбарчая камісія ў складзе старшыні, сакратара і двух сябраў (М. Цімашэнка, Г. Залеўская, А. Чыж, Ю. Міхед). Прайшла рэгістрацыя сябраў аддзелу для галасаваньня.

Затым са справаздачамі выступілі старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка, сакратар спн. Валянціна Якімовіч і скарбнік сп. Валеры Дворнік. Справаздачы былі прынятыя, і затым адбылося высоўваньне кандыдатураў на старшыню і абмеркаваньне працэдуры галасаваньня. Адзінай кандыдатурай аказаўся дзейны старшыня аддзелу сп. В. Зайка.

Галасаваньне было вырашана праводзіць адкрытым. Па выніках галасаваньня старшынём аддзелу БАЗА быў пераабраны сп. Віталь Зайка. Сп. В. Дворнік узяў самаадвод з пасады скарбніка аддзелу, і на пасаду скарбніка быў прапанаваны сп. Сяргей Пятровіч. Сп. Андрэй Чыж выказаў жаданьне працаваць памочнікам скарбніка. Па прапанове старшыні было вырашана прагаласаваць разам за новы склад управы Нью Ёрскага аддзелу БАЗА, у які, за вылікам памершых і неактыўных сябраў, увайшлі сябры папярэдняга складу ўправы (Юля Андрусышын, Валеры Дворнік, Анатоль Колбун, Ала Орса-Романо, Уладзімер Цяліца, Марат Клакоцкі, Аляксандар Міцкевіч, Тацьцяна Красоўская, У. Эмігідзіюш Рыжы, Зьміцер Левіт, Сяргей Пятровіч, Валянціна Якімовіч, Віталь Зайка) і яшчэ трое маладых людзей, што добра зарэкамэндавалі сябе ў актыўнай маладзёвай працы — Мікалай Цімашэнка, Гражына Залеўская, Андрэй Чыж. Па выніках галасаваньня новы склад управы быў прыняты.

Прысутныя пажадалі новай управе плёну ў працы. Затым у разьдзеле "Рознае" прагучэлі аб'явы і паведамленьні.

Пасьля сходу аддзелу адбыўся сход маладзёвай арганізацыі БАЗА — Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА).

***Віталь ЗАЙКА***

1 чэрвеня ў горадзе Рыджвуд, Нью-Джэрзі, у Рыджвудзкай публічнай бібліятэцы адкрылася першая пэрсанальная выстава беларускай мастачкі **Юліі ШАТЭРНІК**.

Раней ейныя творы выстаўляліся ў ***Музэі рускага сучаснага мастацтва Аляксандара Глэйзера*** ў Джэрзі-сіці, ***International stella gallery*** (Парыж), ***Nectar gallery*** (Лёнг-Айленд), ***Vanderplas gallery*** (Нью-Ёрк) і інш.

Асноўныя матывы творчасьці Юліі Шатэрнік: нацюрморты і жаночыя постаці.

Выстава будзе доўжыцца да 30 чэрвеня 2006 г.



## Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА:

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Д. Арэхаў | 30 | К. Занеўская | 30 |
| А. Ваўчэцкі | 30 | Т. Копач | 30 |
| Я. Волкаў | 30 | М. Матвеева | 30 |
| Р. Галун | 30 | Т. Міхалевіч | 30 |
| В. Дзянісава | 30 | В. Сьмелава | 30 |
| А. Драпезв | 30 | М. Сьмелава | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

# Беларускі жывапіс у Брукліне

Крок за крокам абнаўляецца гістарчны будынак беларускай царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Ужо вісіць новая шыльда, устаўленыя новыя вокны, ідзе рамонт грамадзкай залі, інсталюецца новая электраправодка, каляры фэры й паветраныя кандыцыянэры. І хоць рамонт яшчэ ня скончаны, царкоўныя службы і культурныя мерапрыемствы тут адбываюцца рэгулярна. Да паседжаньня ці імпрэзы залю прыбіраюць, і усё адбываецца сваім парадкам. Нішто нічаму не замінае. І рамонт ідзе і развалу няма.

З 12-га траўня ў грамадзкай залі ўжо размешчаная калекцыя жывапісных карцінаў выдатнага беларускага скульптара Алеся Шатэрніка і маладой мастачкі Юліі Шатэрнік (Вінакуравай). Дарэчы, гэта, відаць, той выпадак, калі талент перадаецца ў спадчыну ад бацькоў. Юлія піша ў асноўным нацюрморты, кветкі й прадметы. Яна добры і тонкі каляryст, умее хораша выявіць натуру і галоўнае – ўдыхнуць у яе душу (у гэтым асноўная рыса таленту ў мастацтве). Натура ажывае, пачынае "дыхаць", праз харaство выяўляецца сутнасьць рэчы. Манэра жывапісу Юліі дастаткова прафэсійная, фарбы выразныя, ужо адчуваецца цьвёрдасьць рукі. Застаецца толькі пажадаць мастачцы далейшых посьпехаў у творчасьці, якая ў яе яшчэ ўся наперадзе.

Алесь Шатэрнік, маэстра ў скульптуры, зьвярнуўся да жывапісу параўнальна нядаўна і, як на мой погляд, цалкам заканамерна. Я ведаю мастака ўжо дастаткова часу. Гэта паэтычная захопленая натура, якая ўмее бачыць і цаніць хараство. У скульптуры яму заўсёды было цеснавата, пачуцьцё шукала выхаду, і тады ён пачынаў упрыгожваць, ляпіць цэлыя скульптурныя феерыі. Яму-б нарадзіцца ў эпоху барока. Але паколькі цяпер іншыя звычкі, то творчыя пакуты ўражаньняў над формай знайшлі паралельны выхад у жывапісе і паэзіі.

Мастак выкарыстоўвае імпрэсіяністычную манэру пісьма. Ягоныя карціны эцюднага кшталту, але дастаткова згарманізаваныя па каляryту, з крыху прыглушанымі колерамі. Яны выяўляюць найперш беларускую прыроду, вёсачкі, сялянскія дамы, звычайныя і мілыя куткі Беларусі, гледзячы на якія тут, за мяжой, далёка, пачынае шчымець сэрца па любай і дарагой Бацькаўшчыне.

З аднаўленьнем рамонтных працаў у траўні калекцыю часова здымуць, а ўвосень выстава будзе павялічаная, папоўненая новымі творамі, і тады ў прысутнасьці мастакоў адбудзецца цалкавітае яе адкрыцьцё.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***кандыдат мастацтвазнаўства***

# Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **11 чэрвеня 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне па адрасу:
**401 Atlantic Avenue (Bond Street), Brooklyn, NY 11217**

Пачатак а 12-й гадзіне папаўдні.

Даезд цягнікамі падземкі **A**, **C** да станцыі **Hoyt-Shermerhorn Street**, або падземкі **F** да станцыі **Bergen Street**.

**Уплаты дасылайце на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
**Чэкі выпісвайце на** *Belarusan American Ass'n.*

# Маладзёвая

Пішыце нам на адрас: moladz_bielarus@tut.by

**Цытата нумару:** *Рабі, што можаш з тым, што ёсьць, там, дзе ты ёсьць...*
*Тэдар РУЗВЭЛЬД*

# Нялёгка ў вучобе і барацьбе за свае правы

Згодна дакладу інстытута статыстыкі ЮНЭСКА, Рэспубліка Беларусь сярод краінаў СНД мае адзін з самых высокіх узроўняў ахопу насельніцтва пачатковай, сярэдняй і вышэйшай адукацыяй, а ўзровень пісьмовасьці дарослых складае 99.7%. Але, нягледзячы на гэты факт, за мінулыя два гады колькасьць абітурыентаў у параўнаньні з колькасьцю выпускнікоў сярэдніх школаў значна зьнізілася. У ЗША, наадварот, гэтая лічба працягвае павялічвацца. Чым абумоўленыя такія тэндэнцыі ў галіне адукацыі? Няўжо беларуская моладзь больш ня ймкнецца вучыцца?

Шукаючы адказы на гэтыя пытаньні, я паспрабавала параўнаць працэс і ўмовы навучаньня на ўнівэрсытэтах абедзьвых краінаў, а таксама прааналізаваць палітычнае становішча ў Беларусі, якое, на мой погляд, мае самы непасрэдны ўплыў на зьніжэньне колькасьці беларускіх студэнтаў у апошнія гады.

Адным з найбольшых адрозьненьняў паміж ВНУ Беларусі і ЗША зьяўляецца сыстэма пабудовы навучальнага працэсу. Здаецца, што ў беларускіх унівэрсытэтах адсутнічае альтэрнатыўны падыход. Дакладней кажучы, студэнты пазбаўленыя магчымасьці выбіраць час заняткаў, а таксама вырашаць, што яны хочуць вывучаць у кожным сэмэстры. Тут я маю на ўвазе вывучэньне не агульных навукаў, а вялікай колькасьці дадатковых, якія не заўсёды маюць дачыненьне да спэцыяльнасьці, але зьяўляюцца абавязковымі. Сапраўды, у Беларусі забываюцца, што кожны чалавек - індывід, і калі аднаму студэнту зручна наведваць заняткі раніцай, то другому — найлепш апаўдні, і што студэнту-эканамісту не патрэбны трохгадавы курс хіміі толькі таму, што ён вучыцца ў тэхнічнай ВНУ. Адным словам, існуе праграма, складзеная Міністэрствам адукацыі й рэктаратам некалькі гадоў таму, а пэрсанальнага падыходу - няма.

У ВНУ ЗША гэтае пытаньне разглядаецца зусім па-іншаму. Да пачатку сэмэстру амэрыканскія студэнты вырашаюць, якія навукі з прапанаванага ім ліста яны хочуць вывучаць у наступныя 5 месяцаў, і які час для іх зьяўляецца найлепшым для наведваньня заняткаў. Канешне, і ў Амэрыцы існуюць агульныя навукі, але што тычыцца дадатковых, то студэнты пабіраюць тыя, якія цікавяць іх найбольш. Увогуле працэс навучаньня пабудаваны на сыстэме крэдытаў, пэўную колькасьць якіх трэба набраць, каб скончыць навучальную ўстанову. Такі парадак дазваляе студэнтам самым выбіраць інтэнсіўнасьць навучаньня. І тыя, хто маюць жаданьне ці патрэбу, могуць працаваць аж па 40 гадзінаў на тыдзень. Гэта дазваляе некаторым самастойна аплочваць вучобу, а калі пашанцуе, набірацца вопыту ў сваёй спэцыяльнасьці яшчэ да заканчэньня ўнівэрсытэту.

Да шэрагу іншых адрозненьняў можна аднесьці й форму правядзеньня іспытаў. У амэрыканскіх ВНУ часцей за ўсё яны праходзяць у пісьмовай форме і часам зьяўляюцца ананімнымі: замест прозьвішча студэнт пазначае сваю працу асаблівым нумарам. Гэта дазваляе пазьбегнуць перадузятасьці з боку прафэсароў. Большасьць іспытаў у беларускіх ВНУ праходзяць у пісьмова-вуснай форме, калі тэарытычную частку студэнт паведамляе ў непасрэднай размове з прафэсарам. І калі ў апошняга ўзнікаюць дадатковыя пытаньні, выдатныя ці дрэнныя адказы суадносна палепшаць ці пагоршаць адзнаку на іспыце.

Яшчэ адно адрозьненьне - пытаньне з інтэрнатам. У Амэрыцы кожны студэнт можа атрымаць пакой у інтэрнаце, але часам гэта каштуе нават больш, чым зьнятая кватэра. У Беларусі кошт пражываньня ў інтэрнаце невялікі, але, нажаль, ня кожнаму шансуе атрымаць там пакой. Ну і канешне кошт за навучаньне адрозьніваецца вельмі. У Беларусі гэтая лічба можа дасягаць 3,000 даляраў у год, у ЗША - 50,000. Але нездарма-ж лічаць, што з 20 найлепшых унівэрсытэтаў сьвету 17 - амэрыканскія. У абедзьвух краінах існуюць праграмы бюджэтнага навучаньня, але вядома, што беларускія студэнты-бюджэтнікі абавязаныя адпрацаваць два гады на дзяржаўным прадпрыемстве, куды іх разьмяркоўвае ВНУ. І часьцей за ўсе, гэта прадпрыемствы зь нізкім заробкам, дзе не хапае спэцыялістаў менавіта па гэтай-жа прычыне. Зразумела, што такая пэрспэктыва ня вельмі натхняе адораных маладых людзей.



І, нажаль, у той самы час, калі элітныя амэрыканскія ўнівэрсытэты павялічылі памер дапамогі замежным студэнтам (гнуткая палітыка аплаты за навучаньне дала больш магчымасьцяў для паступленьня здольным людзям зь бяднейшых краінаў, у тым ліку зь Беларусі), Міністэрства адукацыі Беларусі разам з А. Лукашэнкам зьмянілі і ўскладнілі правілы прыёму абітурыентаў, і гэтым зьменшылі магчымасьці беларускай моладзі на паступленьне.

На мой погляд, сапраўднай прычынай зьніжэньня інтарэсу беларускай моладзі да вучобы, зьяўляецца ўсе-ж не неабходнасьць мадэрнізацыі навучальнага працэсу, а палітычнае становішча ў Беларусі. За мінулы год рэзка павялічыўся ціск на СМІ, грамадзкія арганізацыі й палітычныя партыі. І ўлічваючы, што моладзь - гэта асноўны пратэстны пласт грамадзтва, менавіта на яе абрынуўся самы жорсткі ціск уладаў. Ужо не пералічыць студэнтаў, якія былі адлічаныя з навучальных установаў па палітычных матывах. І сярод іх - выдатнікі й найлепшыя вучні, якім "не пашанцавала" адразу на трох іспытах. Асабліва вытлумачальнымі становяцца шматлікія адлічэньні з ВНУ нібыта за "акадэмічную непасьпяховасьць" альбо "парушэньне ўнутранага распарадку" пасля прыняцця загаду міністра адукацыі А. Радзькова аб мерах нэўтралізацыі спробаў уцягненьня навучэнцаў у супрацьпраўную дзейнасьць палітычнага толку "аж да адлічэньня ва ўстаноўленым парадку". І ня дзіва, што давдзеныя да адчаю і пазбаўленыя канстытуцыйнага права атрымліваць адукацыю моладзь актывісты апазыцыйнага руху праводзілі не адну галадоўку за мінулы 2005 год з патрабаваньнямі вярнуць адлічаных студэнтаў і спыніць ціск на моладзь.

Пачынаючы з кастрычніка летась беларуская моладзь сутыкнулася з новай праблемай - абмежаваньнем правоў студэнтаў на замежныя вандроўкі. Згодна з дэкрэтам Лукашэнкі ад 22 кастрычніка 2005 году для паездкі студэнта замяжу на стаж, навучаньне альбо для ўдзелу ў спартыўных ці культурных мерапрыемствах, нават на кароткі тэрмін, неабходны дазвол зь Міністэрства адукацыі. Але, нажаль, гэтых дазволаў практычна не выдаюць, і такім чынам зрываюцца запланаваныя вандроўкі. І менавіта "самастойны выезд за мяжу" быў прычынаю адлічэньня некалькіх студэнтаў, найбольш вядомым зь якіх стала адлічэньне студэнткі 4-га курса БДЭУ Тацьцяны Хома.

Зразумела адно: беларускія ўлады працягваюць палітыку самаізаляцыі краіны, спрабуючы абмежаваць адукацыйныя, навучальныя і грамадзкія кантакты моладзі. Кіраўніцтва краіны баіцца дэмакратычных уплываў, якія студэнты прывязуць з-за мяжы, убачыўшы іншы ўзровень адносінаў у грамадзтве, чым той, які сёньня пануе ў Беларусі.

І я шчыра спадзяюся, што амэрыканская і эўрапейская супольнасьці дапамогуць беларускай моладзі змагацца супраць абмежаваньня правоў і на самой справе зацікавяцца тым, каб забясьпечыць ёй магчымасьць атрымоўваць якасную адукацыю на міжнародным узроўні.

*Анастасія ТРУШ, Дэнвер, Калярада*

# "Беларуская Ініцыятыва" ў Мінэсоце

### Як усё пачыналася...

Усё пачалося вельмі нечакана. Позна ўвечары 20 сакавіка мой сябар выказаў ідэю пайсьці да будынку Капітолія ў Сэнт Поле, штат Мінэсота, у знак пратэсту супраць фальсыфікацыі выбараў і выказаць падтрымку свабодным і дэмакратычным выбарам у Беларусі. Як кажа прымаўка: лепш позна, чым ніколі. Таму мы й вырашылі арганізаваць дэманстрацыю на наступны дзень. Тады я ацаніла камунікацыйныя вынаходкі нашага часу: е-мэйл, мабільны тэлефон, тэкставыя паведамленьні, аб'явы ў сецьве, ICQ. Асабліва дзякуй нашым украінскім сябрам з "Майдан Інтэрнэшнл", якія дапамаглі нам сабраць людзей.

У той-жа вечар мы сабраліся ў хаце сябра і пяць гадзін запар малявалі плякаты. Думаю, што нашая задума была даволі пасьпяховай, бо за адзін дзень сабралі больш за 20 чалавек. Было прыемна ведаць, што беларусы за тысячы кілямэтраў ад нас на Радзіме зьядналіся пад нашымі бел-чырвона-белымі сьцягамі. У той дзень мы зрабілі нешта важнае, што нават не планавалі — зьядналі беларусаў Мінэсоты.

Я заўсёды зайздросьціла ўкраінцам: куды-б ні паехала — ці ў Нью Ёрк, Чыкага, Лас Анджалес ці Таронта — паўсюль арганізаваныя ўкраінскія дыяспары, якія маюць свае цэрквы, банкі, крамы. Узгадваю размову з украінскім сябрам два гады таму падчас прэзыдэнскіх выбараў ва Ўкраіне, ён казаў, што для іх гэта быў вялізарны прыклад нацыянальнай еднасьці. Украінцы ехалі праз усе Злучаныя Штаты ў Чыкага і Нью Ёрк у свае консуляты, каб узяць удзел у галасаваньні. Яны мелі надзейныя арганізацыі, каб пасылаць фінансавую дапамогу. Яны зьядналіся і таму перамаглі.

### Гісторыя працягваецца...

Нашая наступная акцыя пратэсту была 25 сакавіка, якая сабрала ўдвая больш людзей, больш плякатаў, больш сьцягоў і больш ідэяў. Адна пара прынесла больш за 30 маленькіх сьцяжкоў. Дадам, што зусім няпроста набыць беларускую атрыбутыку тут, у Мінэсоце. Дапамагла беларуская вынаходлівасьць, і ўсё атрымалася выдатна! Магчыма, для некаторых 40 чалавек удзельнікаў дэманстрацыі падасца сьмешна молой лічбай, але прažыўшы тут чатыры гады, я ведала ня больш за пяць беларусаў, таму пабачыць чатыры дзясяткі сьведамых землякоў у адным месцы было проста цудоўна.

А людзі працягвалі зьбірацца: некаторыя пачулі ад сяброў, іншыя бачылі здымкі папярэдняй акцыі на вэб-старонцы Хартыі'97 альбо прачыталі аб'яву ў інтэрнэце. Відавочна, што нашую ідэю падтрымалі. Мы вырашылі сфармаваць ініцыятыўную групу актывістаў, якія-б прысьвячалі свой час і намаганьні дзеля грамадзкай працы.

### Справа рухаецца

Прамерзнучы некалькі гадзінаў на вуліцы, мы рушылі ў камярню, каб абмеркаваць нашыя мэты й задачы. Галоўнай мэтай ёсьць усталяваньне дэмакратыі ў Беларусі. Нашыя задачы: наладзіць кан-

*Заканчэньне на наступнай бачыне*

# бачына

## "Беларуская ініцыятыва"

**Заканчэньне**
**Пачатак на папярэдняй бачыне 10**

такты зь беларускімі дыяспарамі па ўсім сьвеце; дапамагаць беларускім студэнтам, выключаным з унівэрсытэтаў на Бацькаўшчыне за іх палітычную дзейнасьць; даваць юрыдычную і фінансавую дапамогу беларусам, якія пацярпелі за палітычную дзейнасьць; расказваць жыхарам Мінэсоты пра Беларусь; стварыць тут беларускі асяродак; дапамагаць тым беларусам, якія толькі прыехалі ў ЗША; арганізоўваць сьвяткаваньні беларускіх сьвятаў, прапагандаваць і пашыраць беларускую мову і культуру.

Адной з нашых задач ёсьць таксама пашырэньне ведаў аб Беларусі ў штаце Мінэсота. У гадавіну Чарнобыльскай трагедыі некалькі нашых актывістаў арганізавалі прагляд стужкі "Сэрца Чарнобылю" ў Normandale Community College. Наступны паказ заплянаваны ў верасьні сёлета ў Metropolitan State University. 29 красавіка мы арганізавалі дэманстрацыю "Памятайце ахвяраў Чарнобыля". Каля 20 актывістаў былі апранутыя ў белую антырадыяцыйную вопратку, яны прайшлі па адной з самых шматлюдных вуліц Мінэапалісу. Потым мы стаялі на мосьце каля цэнтру горада. Моцны дождж пасьпрыяў нам у той дзень: змоклыя да ніткі, стоячы на мосьце і радасна вітаючы мінакоў, мы прыцягнулі шмат увагі ўтульна ўладкаваных ў сваіх аўтамабілях кіроўцаў. Амаль кожны другі зь іх сыгналіў нам у знак падтрымкі. Спадзяюся, што мы нагадалі ім пра Чарнобыль. Мы спадзяёмся, што некаторыя зь іх, прыйшоўшы дахаты, захацелі больш даведацца пра гэтую трагедыю і, магчыма, зрабіць свой унёсак у дапамогу яе ахвярам, ці то дапамагаючы дзецям Чарнобыля, ці робячы ахвяраваньні, ці толькі нагадваючы іншым, што такая трагедыя не павінна паўтарыцца зноў.




### Мы сёньня і заўтра

Пасьля нашай першай сустрэчы 21 сакавіка мы збіраліся некалькі разоў на афіцыйныя сходы. Акром таго, мы ладзім супольныя акцыі. Адна з нашых задум - правядзеньне беларускай лятарэі ў адным з паркаў Мінэсоты і сумесны паход на прыроду. Я ўпэўненая, што такія акцыі дапамуць зьяднаць беларусаў Мінэсоты і стварыць моцную дыяспару. Адначасова гэта дапоможа прыцягнуць больш людзей для дзейнасьці ў справе ўсталяваньня дэмакратыі ў нашай Айчыне.

Мы запрашаем кожнага, хто хоча далучыцца да нашай ініцыятывы, вітаем прапановы і камэнтары. Пішыце нам на адрас: *belarusianinitiative@gmail.com*

**НАТАЛЬЛЯ**
**Мінэапаліс, Мінэсота**

## Беларускі Шлях

**Заканчэньне з бачыны 5**

ласьці й велічы. Беларусь у Эўрапейскім Сэрцы паклікана да чысьціні й сьветлыні бел-чырвона-белага, да імклівасьці й нястрымнасьці Пагоні, да веры й волі, што напаўняюць гімн "Магутны Божа".

Таму Вялікі Беларускі Шлях – гэта яднаньне і праваслаўных, і каталікоў, і пратэстантаў дзеля супольнае малітвы, духовага ўзаемаабагачэньня і, урэшце рэшт, выяўленьня адзінае нацыі ў Божых вачох. Беларусь – агульначалавечы форум хрысьціянства. Арэна. Асамблея. Сумежжа й сумоўе. Зваротны эфэкт гэтага глябальнага фэнамэну ў тым, што праз канфэсійны сынтэз Беларусі адкрываецца ўвесь сьвет: каталіцкі Захад, праваслаўны Ўсход, архіпэлягі пратэстанцкіх Штатаў, Паўночнае Эўропы й Азіі. Беларусь – натуральны фокус хрысьціянскае айкумэны: так Палестына, крыніца трох вялікіх рэлігіяў, сталася цэнтрам увагі для ўсяго чалавецтва. Выкшталцоная лёгіка й рацыя каталіцтва, містыка й узвышанасьць праваслаўя, пратэстанцкая простасьць і прага абнаўленьня – у сапраўдным беларускім хрысьціянстве сышлася ўся поўня вучэньня Ісуса Хрыста, расьсеяная за дзьве тысячы гадоў па ўсім сьвеце. І Беларусь, сьледам за сьвятым Аўгусьцінам, паўтарае вернікам розных канфэсіяў: "У галоўным – адзінства, у спрэчным – свабода, а ва ўсім – любоў!"

Вялікі Беларускі Шлях – гэта кансалідацыя ўсіх нацыянальных сілаў, што грунтуюцца на хрысьціянскіх прынцыпах ды эўрапейскай традыцыі: руху Мілінкевіча й партыі Пазьняка, Маладога Фронту й рэгіянальных структураў супраціву, прадпрымальнікаў ды хрысьціянскіх грамадаў. Пераадоленьне другасных і міжасобасных супярэчнасьцяў апошняга дзесяцігодзьдзя – сапраўды працаглы, але абсалютова непазьбежны этап беларускага шляху да перамогі. Пакуль беларускае Адраджэньне ня будзе выяўлена ў салідарнай сіле – лёс Беларусі будзе важыцца зьнешнімі сіламі з дапамогаю маніпуляцыяў, гвалту ды здрады паводле найгоршых сцэнароў Рэчы Паспалітай XVIII стагодзьдзя. Магчыма, цэнтрам такога яднаньня выступіць Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя, што ствараецца зараз беларускімі патрыётамі й вернікамі розных канфэсіяў. З аднаго боку, БХД у палітычным спэктры займае месца паміж БНФ Вячоркі й КХП Пазьняка, зь іншага – увасабляе ў сабе маладое, новае пакаленьне нацыянальнага руху, і, нарэшце, спалучае хрысьціянскія грамады на патрыятычным падмурку, фармуючы жывое ядро беларускае ідэі.

Вялікі Беларускі Шлях – гэтаператварэньне беларускай дыяспары (унікальнага апірышча беларускасьці!) са структуры захаваньня ў структуру ўплыву. Нажаль, ня ў прыклад традыцыйнае мадэлі дапамогі эміграцыі з боку мэтраполіі, пакуль беларуская апазыцыя або ігнаруе дыяспару, або проста нешта просіць па дробязях. Беларускаму дэмакратычнаму руху сёньня вельмі бракуе моцных сувязяў – палітычных, культурных, урэшце, асабістых – з нацыянальнай эміграцыяй. А пры наяўнасьці волі ды кардынальнага цэнтру ў самой Беларусі беларускае замежжа можа аказаць Адраджэньню сапраўды магутную падтрымку. Падтрымку досьведам – бо многія эмігранты прайшлі вялікі беларускі шлях адзінаасобна. Падтрымку духам – бо эміграцкія асяродкі куды больш веруючыя, як ні парадаксальна, куды больш нацыянальна сьведамыя, і, як сьледства, больш моцныя, чым многія партыі й арганізацыі ў самой Беларусі. Падтрымку палітычную, арганізацыйную, дыпляматычную – бо ўзаемадачыненьні з урадамі Захаду ў справе змаганьня за Беларусь патрабуюць надзейнага пасярэдніцтва на месцы. Пад кіраўніцтвам Рады БНР раскіданыя па ўсім сьвеце беларускія арганізацыі могуць мабілізавацца ў сапраўдны геапалітычны фронт, каб даць бой пракрамлёўскаму й лукашэнкаўскаму лёбі ў Брусэлі, Маскве, Бэрліне й Лёндане, Кіеве ды Вашынгтоне – і распачаць поўнамаштабны наступ беларускага руху па ўсіх кірунках.

Вялікі Беларускі Шлях, які разгортваецца зараз перад нацыянальнымі сіламі – гэта найшырэйшая кампанія беларускага асьветніцтва й эвангелізацыі, стварэньне тысячаў хатніх гурткоў і правядзеньне дзясяткаў тысячаў вікторынаў, конкурсаў, інтэрнэт-канфэрэнцыяў, спартовых спаборніцтваў для тых, хто "ня ў курсе", "не задумваўся", "ня чуў і ня бачыў" – каб штогод сотні тысячаў нашых грамадзянаў выбіралі для сябе Беларусь. Некалькі гадоў ахвярнае, маторнае, увесьчаснае працы – такой, ад якой-бы заварушылася, ускалыхнулася ўся краіна! "Ісьці ў народ" – накірунак шляху даўно знаёмы – нацыянальны рух абіраў і ў пачатку XX ст., і ў канцы 80-х – пачатку 90-х. Першы этап гэтага Вялікага Беларускага Шляху прывёў нас да абвяшчэньня БНР і стварэньня падсавецкае БССР. Другі – да краху савецкай сыстэмы й незалежнасьці РБ. Цяперашняя эпоха інтэрнэту й флэш-мобаў, сатэлітнага тэлебачаньня й кампутаровых мультыклюбаў, электронных рассылак і ўсеагульнай мабільнай сувязі дае бяспрыкладныя магчымасьці для трэцяга, апошняга, вырашальнага этапу.

Вялікі Беларускі Шлях ідзе праз Брамы Магутных Цэркваў і Дамы Моцных Сем'яў, праз Самакіроўныя Вёскі й Магдэбурскія Гарады, па Раўніне Закону й Узгор'ях Нацыянальнага Адраджэньня. Гэты Шлях цячэ ў жылах кожнага беларуса – і вядзе да самага сэрца.

Беларусь уратавалася ў страшных войнах, акупацыях і цудам атрымала незалежнасьць не для таго, каб назапашваць тлушч, енчаць перад суседзямі й хавацца ў бульбу ад чарговых пагрозаў. Досыць! Па-над намі – ня сала з праслойкай мяса, а бел-чырвона-белы Сьцяг Хрыста. Нам патрэбная моцная й дзейная Беларусь – гарачае Сэрца Эўропы. Мы мусім паставіць сабе задачу перасягнуць вяршыні залатога XVI стагодзьдзя – аддаць усе сілы справе Скарыны, Радзівілаў, Сапегі. Узьняць краіны Вялікага Княства. Абудзіць Эўропу. Збавіць Расею.

Так, мы самыя па сабе занадта слабыя й грэшныя для гэтага. Але тыя, хто ідзе з Богам і любіць Беларусь, ведаюць, наколькі гэта рэальна: "Чалавеку гэта немагчыма; Богу-ж усё магчыма" (Мацьвея 19:26).

Беларусаў кліча Вялікі Шлях.



**Павал Севярынец на "хіміі". 2005 г.**

Павал СЕВЯРЫНЕЦ нарадзіўся 30 сьнежня 1976 году ў Воршы, у сям'і журналіста Канстанціна Севярынца й настаўніцы Тацьцяны Севярынец. У 1994 годзе скончыў СШ №25 горада Віцебску ў мастацка-архітэктурнай клясе, у 2000 годзе – геаграфічны факультэт БДУ, атрымаўшы прафэсію інжынэра-геоляга.

У 1994-1999 гадох працаваў рэпарцёрам у шэрагу дзяржаўных і камэрцыйных выданьняў. З 1998 году пачаў друкавацца ў незалежнай прэсе як публіцыст.

У кастрычніку 1995 году ўступіў у БНФ "Адраджэньне". У лютым 1997 году ўзначаліў Менскую маладзёвую фракцыю БНФ. У верасьні 1997 году на Ўстаноўчым сойме быў абраны сустаршынём Маладога Фронту.

2красавіка 1998 году арыштаваны падчас апазыцыйнае маніфэстацыі ў Менску і за "зрыў канцэрту, прысьвечанага аб'яднаньню Расеі й Беларусі", зьмешчаны ў сьледчы ізалятар на вул. Валадарскага. Праз два месяцы пад ціскам беларускай і міжнароднай грамадзкасьці вызвалены й адпраўлены пад падпіску аб нявыезьдзе ў Віцебск. Крымінальная справа закрытая ў лістападзе 1998 году без тлумачэньняў і прабачэньняў.

Удзельнікі арганізатар масавых вулічных выступленьняў моладзі ў 1997-2004 гадох, больш за 40 разоў затрымоўваўся міліцыяй і КДБ; агулам правёў пад арыштам больш за 7 месяцаў і выплаціў $3500 штрафу. Заснавальнік асьветніцкага праекту "Шоў Беларушчыны", курсаў "Ды-джэяў Адраджэньня", ініцыятар стварэньня кааліцыі беларускіх дэмакратычных маладзёвых арганізацыяў "Пераменаў!", а таксама міжканфэсійнае супольнасьці "Хрысьціянская ініцыятыва". У 1999-2003 гадох – намесьнік старшыні Партыі БНФ. З 1999 да 2004 – старшыня Маладога Фронту.

Адзін з арганізатараў І Кангрэсу Беларускай Моладзі (ліпень 2001 г.), абароны Курапатаў (верасень 2001 г. - чэрвень 2002г.), нацыянальнай кампаніі "Беларусь у Эўропу!" (вясна 2002 г.), перадвыбарчага блёку "Маладая Беларусь" (2004 г.).

У 2005 годзе абвінавачаны ў арганізацыі акцый пратэсту супраць "трэцяга тэрміну Лукашэнкі", якія адбыліся ў Менску пасьля "рэфэрэндуму-2004" 18 і 19 кастрычніка. Асуджаны да 3-х гадоў абмежаваньня волі (г. зв. "хіміі"), з улікам амністыі тэрмін скарочаны да 2-х гадоў. Адбывае пакараньне на лесанарыхтоўках у вёсцы Малое Сітна на поўначы Беларусі (Полацкі р-н).

Сябра Беларускага ПЭН-цэнтру.

Аўтар трох кнігаў: "Ды-джэй Адраджэньня" (1998 г.), "Пакаленьне Маладога Фронту" (2002г.), "Нацыянальная ідэя" (2005 г.).

Хрысьціянін.

***Біяграфія ўзятая з вэб-старонкі П. Севярынца***

# Маладзёвая бачына

Цягам апошняга часу можна ўбачыць творчае ажыўленьне сьвядамай моладзі Беларусі. Асабліва гэта заўважна ў сталіцы краіны, Менску. Апошнія два гады, ды асабліва ў месяц прэзыдэнцкіх выбараў, былі насычанымі на палітычныя падзеі, і гэта знайшло моцны водгук у беларускім грамадзтве, у прыватнасьці, між маладых. Беларуская моладзь, якая хоча пераменаў цяпер актыўна выказвае сваё незадавальненьне сытуацыяй на Радзіме. Зацікаўленасьць палітыкай значна павялічылася, як і зрэшты, паболела людзей, якія разумеюць, што яны могуць і мусяць нешта рабіць.

## МЕНСК – флэш-мобавая сталіца Эўропы

Улічваючы складаныя ўмовы сталічнае "вуліцы", непартыйныя актывісты пачалі актыўна шукаць нетрадыцыйныя шляхі выказваньня нязгоды. Трэба памятаць пра закон аб паклёпе на прэзыдэнта РБ, а таксама хуткасьпечаны на пачатку апошняе прэзыдэнцкае кампаніі закон аб дыскрэдытацыі краіны. Флэш-моб у гэтай сытуацыі зьявіўся сваечасовай альтэрнатывай. У адрозьненьні ад дэманстрацыяў і мітынгаў, якія ў Менску вельмі цяжка наладзіць зважаючы на магчымыя нязручнасьці для гарадзкога транспартнага руху, флэш-мобы прапануюць хуткі й эфэктыўны спосаб данесьці пасланьне да масаў. Самае галоўнае, што ў прынцыпе, кожны з удзельнікаў можа зычліва адказаць падыйшоўшаму рупліўцу парадка, што "Я нічога й нікога". І яно, па-сутнасьці, так. Мала каму можа замінаць група прыемных маладзёнаў, якія проста хочуць выказаць сваю апінію наконт таго, што адбываецца на Радзіме. Асабліва, калі па-закону яны маюць права на выказваньне сваёй думкі. Гэта-ж ня нейкія тэрарысты, ці "адмарозкі"-апазыцыянэры, а шэраговыя менскія студэнты. Што-ж, мо шэраговасьць гэтае зьявы і ёсьць тым, што не дае спакою ворганам бясьпекі.

Дык што такое флэш-моб? Адкуль ён пайшоў? Які ў гэтым усім сэнс? Сьпярша трэба перакласьці гэтае словаўтварэньне з ангельскай мовы на беларускую. Flash-mob - гэта літаральна бліскавічная грамада. Гм... Тут ня надта шмат яснасьці нават для ангельскамоўных. Паводле інтэрнэт рэсурсу www.wordspy.com, гэты выраз ёсьць спалучэньнем двух іншых выразаў, якія, на першы погляд, маюць мала чаго агульнага паміж сабой. Гэта flash crowd і smart mob. Flash crowd (бліскавічны натоўп) ёсьць інтэрнэтным тэрмінам, які азначае "вострае й няспыннае павелічэньне карыстальнікаў, што адначасова імкнуцца зайсьці на вэб-старонку, звычайна ў якасьці рэакцыі на нейкую падзею ці аб'яву". Другі выраз, smart mob (кемлівая грамада) ёсьць назовам "некіруемага збору й перамяшчэньня аднадумцаў, якія арганізуюцца загадзьдзя". Упершыню выраз "флэш-моб" быў выкарыстаны нью-ёркскім рэпартэрам Дэйвідам Данцыгам у 2003 годзе, калі ён заўважыў, як жыхары сталіцы сьвету наладжваюць праз электронную пошту "нявытлумачаныя грамады".

Дарэчы паняцьце ўласна smart mob'у было распаўсюджана на год раней, дзякуючы кнізе Хаўарда Райнголда (Howard Rheingold) пад назовам "Кемлівыя грамады: наступная грамадзкая рэвалюцыя". Адсюль вынікае, што радзімаю гэтай зьявы ёсьць найвялікшы горад Злучаных Штатаў – Нью Ёрк, а час нараджэньня – пачатак дваццаць першага стагодзьдзя.

Арыгінальная і сапраўды сьвежая ідэя спадабалася шэрагу людзей і неўзабаве пераплыла акіян імкліва дасягнуўшы Беларусь. З таго часу дзённы сон Беларусі быў узрушаны больш чым 120-ю дзіўнымі акцыямі. Гэта не чарговыя дэманстрацыі пратэстуючай моладзі, што ў адрозьненьні ад іншых не пабаяліся выйсьці ды прамаўляць. Гэта не было чарговым пэрформансам у стылі Алеся Пушкіна, які наклікала хмары над галавою мастака-вальнадумца. Гэта было нешта новае, бязьвіннае ды арыгінальнае, хоць і прынесенае інтэрнэтнай прасторай з дэкадэнцкага Захаду. Адзінае, што дзейнасьць такога кшталту магла выклікаць, - гэта сьмех, камічную зьбянтэжанасьць ды раздражненьне тых, каму не дазволена мець пачуцьцё гумару.

Можна напісаць цэлую кнігу ды выдаць фатаальбомы на гэтую тэму. Дакумэнтальных і фатаграфічных матар'ялаў толькі за апошнія два месяцы сабралося дастатова, каб зрабіць выбітнае выданьне, якое будзе ня толькі помнікам сучаснаму беларускаму супраціву, але й узорам і натхненьнем у будучыні.

Як ведама, дэмакратычная супольнасьць Беларусі атрымала цынічны падарунак ад "лідэра" краіны на сьвята БНР – азьвярэлыя паводзіны спэцслужбаў.

Гэты ўрок, здавалася, павінен быў суцішыць шалёных наркаманаў, парнографаў ды рознага кшталту палітвычварэнцаў сталіцы (г. зн. дэмакратаў ва ўяўленьні тых, хто «слухае бацьку»), прадэманстраваўшы грацыю сілы чарговай элегантнай перамогі прэзыдэнта. Як, напэўна, і бясконцыя арышты, хуткабежныя да вар'яцтва суды, і публічныя каяньня а la Тарквэмада-Сталін павінны былі задушыць усялякі пратэст. Але-ж не. Абурэньне народу ня сьціхла. Можа апазыцыі й трэба быў час, каб абудзіцца ад шоку, але набытае надхненьне, хай сабе й адносна невялікай колькасьці абуджанай моладзі, нагадала аб сабе. І вельмі хутка.

На зьдзек БТ над удзельнікамі намётавага мястачка было шмат вартасных адказаў. На ўсё яшчэ Кастрычніцкую плошчу зноў выйшла моладзь. Толькі цяпер, яны сталі тварам да вялізнага тэлеэкрана «Наших Новостей» і дэманстратыўна завязалі сабе вочы чорнымі й джынсавымі стужкамі. Усё скончылася гэтак-жа нечакана як і пачалося. Наступнай, ды найбольш заўважнай акцыяй супраць гегемоніі БТ была знакамітая скрынка з эмблемаю тэлеканалу поўная зваранае лапшы. Можна з замілаваньнем чытаць допісы ўдзельнікаў у «Жывым Журнале» аб тым, колькі варыць лапшы ды ў чым яе прыносіць на месца правядзеньня. Наступная зычная акцыя была ўжо супраць газэтнай манаполіі «Советской Белоруссии». Ня бачачы больш сэнсу працягваць чытаць гэтую газэту, флэш-мобэры дэманстратыўна запоўнілі ёю сьметніцы Камароўскага рынку.

Былі таксама закранутыя падзеі леташняе даўніны. Сябры студэнцкай ініцыятывы «Вока» зладзілі флэш-моб "Год без Скарыны", прысьвечаны памяці перайменаваньня Праспэкта Францішка Скарыны на Праспэкт Незалежнасьці. А падтрымка «Нашай Нівы» набыла агульна-нацыянальны размах, з акцыямі ў у Віцебску, Магілёве, Салігорску ды Берасьці.

Увогуле, гэтыя выступленьні ўражваюць сваёй сабранасьцю ды хуткасьцю, не гаворачы пра зразумеласьць. А замаруджаная і сканфужаная рэакцыя міліцыі ды спэцслужбаў дазваляе думаць, што гэткая форма супраціву мае такое ўзьдзеяньне. Органы бясьпекі й праваапарадку папросту ня ведаюць, што рабіць. Іх дзеяньні зусім нелягічныя. Гэта й затрыманьні з пагрозаю арышту студэнтаў, якія чытаюць кнігі, і "пасыланьне" групы сяброў, што з задавальненьнем ела зморазь нацыянальнай вытворчасьці, і поўная разгубленасьць, калі сацыяльна-сьвядомыя маладыя людзі выстрайваюцца ў чаргу, каб вярнуць грошы Менскаму вадаправоду.

А моладзь усё актывізуецца й актывізуецца. І што самае галоўнае, сама, без умяшальніцтва палітычных партыяў, адхіліўшы здавалася-б цудоўную прапанову Мілінкевіча стварыць цэнтар каардынацыі флэш-мобаў, дзе арганізатарам іх давалі-б юрыдычныя кансультацыі.

Беларусы абмяркоўвалі й працягваюць абмяркоўваць ідэі ў інтэрнэце, у прыватнасьці, у папулярным сеціўным «Жывым Журнале». Дэмакратычныя «ЖэЖэўцы» («жэўжыкі?») заражаюць, вырошчваюць ды выводзяць у сьвет вынікі сваёй ініцыятыўнасьці, а потым цешацца ды абмяркоўваюць эфэкт, які быў зроблены на прыгнечанае грамадзтва. Цікава, што менавіта праз сусьветнасьць гэтае зьявы, вылучаецца рыса беларускага характару – вынаходлівасьць ды жартаўлівы падыход да кожнае сытуацыі. Я ўпэўнены, што князь гумару Беларусі, вялікі Ўладзімер Караткевіч, быў-бы ўзрадаваны, калі-б даведаўся, што нават у такіх цяжкіх для беларусаў умовах, іхны дух не згасае.

Найлепш гісторыю разьвіцьця беларускіх флэш-мобаў можна прасачыць пагледзеўшы старонкі форумаў, на якіх уся гэтая гісторыя й пачыналася, а цяпер працягвае разьвівацца. «Тубайскія» і найбольш, ужо прыгаданы «ЖэЖэўскія» форумы зьяўляюцца сапраўдным летапісам, а лепей сказаць, дзённікам, флэш-мобаў. Трэба заўважыць, што менавіта падзеі выбарчай кампаніі й усяго Сакавіка 2006 году вельмі паспрыялі росту колькасьці гэтых акцыяў. Як напісаў адзін з сяброў флэш-мобаўскай рэдкалегіі: "Флэш-моб зараз адзіны зручны й бясьпечны варыянт больш-менш актыўнай барацьбы" (ЖЖ 26.05.06). Гэта значыць, што ўсё толькі пачынаецца! Менск цяпер сапраўды зьяўлецца флэш-мобавай сталіцай Эўропы. А сам спосаб пратэсту ўжываецца ўсё сьмялей і часцей дэмакратычнай моладзьдзю ў іншых местах Беларусі. Адзінае што можна сказаць тут: Жыве Беларусь!

**Стэфан ЛЯЗОВІЧ**



Флэш-моб "Прыхільнікі марозіва" ў Менску.



Флэш-моб у падтрымку "Нашай Нівы" ў Берасьці.

## Нашая фанатэка

# Музычныя падарожжы беларускага “ULISa”

### (нарыс творчасьці знанага гурта)

Адным з пачынальнікаў і легендаў нацыянальнай рок-музыкі, што ўпершыню пачаў прадстаўляць нацыянальны рок на міжнароднай арэне, зьўляецца гурт “ULIS”. У ягонай дыскаграфіі ёсьць дзевяць паўнафарматных альбомаў. Некаторыя зь іх былі выдадзены ў канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя на вінілавых дысках. Але іх папулярнасьць настолькі вялікая, што і ў наш час яны перавыдаюцца ў CD-фармаце, як клясычныя ў нацыянальнай рок-фанаграфіі. У творчай біяграфіі музыкаў таксама ёсьць выдадзеная кніжка з лірыкай аўтараў песень каманды. Таму я прапаную разам яшчэ раз асэнсаваць, глыбей зірнуць на фэномэн творчай спадчыны аднаго са старэйшых беларускіх калектываў...




Нагадаю, што гісторыя “ULISa” распачалася ў 1988 годзе, калі са знакамітага рок-гурту “Bonda” па прычынах творчых супярэчнасьцяў сыходзяць гітарыст Слава Корань і басіст Сяржук Краўчанка. Праз год гэтыя музыкі і сталі заснавальнікамі новага музычнага калектыву, назву якому падказаў толькі што выдадзены на Беласточчыне раман знакамітага ірляндзкага пісьменьніка Джэймса Джойса “Ўліс” у беларускамоўным перакладзе Яна Максімюка. І ўжо ў 1989 годзе музыкі гурту “ULIS” у прафэсыйнай студыі Рышарда Шміта запісваюць свой першы альбом “Чужаніца”, які ў 1991 годзе быў выдадзены фірмай “Мелодия”. Да запісу “Чужаніцы” спрычыніліся тыя, каго спэцыялісты сёньня называюць першым складам легендарнага гурту: гітарыст і аўтар музыкі Слава Корань, тэкставік Фелікс Аксёнцаў, басіст Сяржук Краўчанка, вакаліст Андрэй Патрэй, барабаншчык Кірыла Шэвандо і пэркусіяніст Валеры Цініцкі. Тагачасная слухачы з прыхільнасьцю сустрэлі альбом маладога гурту, нягледзячы на тое, што з боку крытыкаў былі выказаныя заўвагі наконт запазычваньняў. Прэм'ерны дыск гурту “ULIS” быў прыхільна сустрэты і прэсаю. Вось, напрыклад, што адзначала у той час беларуская прэса: “Невялікі па колькасьці інструмэнтальны састаў можа разьлічваць у пошуках адметнага гучаньня толькі на ягоную натуральнасьць, на завершанасьць аранжыровак, на прыгожасць гука асноўнага інструмэнта гурту – гітары С. Кораня. Пры гэтым тэмбры інструмэнтарыя гурту – чыстыя, сьветлыя, нават празрыстыя... Гэты дыск – матар'яльнае пацьверджаньне эўрапейскасьці мысьленьня музыкаў гурту “ULIS”, надзея на станоўчы напрамак у разьвіцьці ўсёй беларускай рок-музыкі”. (“Мастацтва”, №8 1990 г.).

Посьпех “Чужаніцы” абумовіў цікавасьць слухачоў і да наступных запісаў гурту – дыскаў “Краіна доўгай белай хмары”, што быў выдадзены ўжо ў Польшчы і альбому “Танцы на даху”. Гэтыя вельмі ўдалыя па задуме і гучаньню праграмы высунулі гурт у лідэры беларускага рок-руху. Дарэчы, ў 2004 годзе названыя альбомы гурту “ULIS” зь вялікім посьпехам перавыдадзеныя суполкай БМАgroup. Новае жыцьцё старых рарытэтаў нагадвае маладзейшым слухачам пра творчае аблічча ўлюбёнага гурту, якое дамінавала ў мінулым стагодзьдзі.

Гэтая абставіны спрыялі таму, што гурт “ULIS” увесь час знаходзіўся ў музычных падарожжах, апраўдваючы сваю літаратурную назву. Так, толькі за некалькі гадоў пасля свайго стварэньня і выданьня альбому, “ULIS” пасьпеў пабываць з гастрольнымі вандроўкамі ў Нямеччыне, Польшчы і Эстоніі. Вось як успамінае гэты пэрыяд творчасьці гурту “ULIS” ягоны лідэр Слава Корань: “З асаблівым пачуцьцём успамінаю першую паездку ў Нямеччыну і канцэрт у клюбе гораду Аўсбург. Клюб быў поўным, мы выступалі зь вялікім посьпехам. І мне здавалася, што ўсё гэта нерэальна, адбываецца не са мной. Калі-б мне сказалі, што гурт “ULIS” праз некаторы час будзе выступаць на адной сцэне з “Jetro Tull”, “The Stranglers”, “Kaoma”, “Nitzer EBB”, “Marillion” альбо “Holi Joy”, то я, хутчэй, не паверыў-бы таму!” (“Голас Радзімы” №14-17, 22.04.2004).

Але асабліва музыкам памятная паездка з канцэртнымі выступамі ў Вялікай Брытаніі. На радзіме “Beatles” беларускія музыкі адыгралі некалькі канцэртаў у лёнданскіх канцэртовых залах і клюбах, далі вялікае інтэрвію і “жыўцом” выступілі на сусьветна вядомай радыёстанцыі BBC, былі гасьцямі заснавальніка знакамітай фірмы гітарных узмацняльнікаў “Marshall”, якому “ўлісаўцы” прэзэнтавалі свае альбомы...

Але ня толькі ўдалымі паездкамі па замежжы вядомы гурт. Удзельнікі “ULISa” шмат чаго зрабілі, каб у Беларусі змаглі выступіць цікавыя калектывы альтэрнатыўнай накіраванасьці з усяго сьвету. Дзеля гэтага імі была заснавана серыя канцэртаў “ULIS” зьбірае сяброў”. Удзельнікамі іх былі гурт “Frantic club” зь Нямеччыны, гурты зь Вялікабрытаніі “Snatch” “Nitzer EBB”, “Мека”. Відавочна, што гэтыя канцэрты пашыралі веды беларускіх слухачоў адносна стылістычных асаблівасьцяў некамэрцыйнай рок-музыкі на Захадзе. Асаблівую папулярнасьць “ULIS” атрымаў у Польшчы, дзе вялікай цікавасьцю карыстаўся іх дыск “Краіна доўгай белай хмары”, які быў выдадзены мясцовай фірмай грамзапісу “Polskie Nagrania” і вельмі шырока быў прадстаўлены ў польскіх музычных крамах. “ULIS”— заўсёдны ўдзельнік фэстывалю музыкі маладой Беларусі “Басовішча”. Там-жа створаны і фан-клюб гурту, які дзейнічае і сёньня, распаўсюджваючы дыскі і зьвесткі пра ўлюбёную каманду. Да таго-ж, Слава Корань – сталы сябра журы фэсту “Басовішча” і шмат зрабіў, каб зь Беларусі на гэтую музычную імпрэзу адпраўляліся толькі самыя дастойныя рок-выканаўцы...

Што-ж так захапляла беларускіх слухачоў у музыцы гурту “ULIS” ў тыя часы? Бадай тое, што Слава Корань і ягоныя сябры прапанавалі вельмі складаную музыку, карані якой былі ў эўрапейскай рок-традыцыі. Музыкі сьвядома арыентаваліся не на стварэньне “лабавых” гітоў, а прапаноўвалі тэмы, якія хвалявалі ўсіх слухачоў, не зважаючы на папрокі ў змрочнасьці ці безвыходнасьці песень. У гэтым сэнсе паваротным стаў альбом гурту “ULIS” “Краіна доўгай белай хмары” Гукавая палітра гэтага альбома, як і папярэдняга – “Чужаніца”, была хучэй рамантычнай і трошкі мелянхалічнай. Гэтаму эфэкту спрыялі шырокія магчымасьці тагачаснага вакаліста Андрэя Патрэя, празрыстыя тэмбры гітары і рафінаваная сола Славы Кораня, якімі захапляўся тады лідэр “ULISa”. Да таго-ж, вельмі важную справу для наданьня пазнавальнага гучаньня гурту рабілі бубнач Сяржук Кныш, басіст і кампазытар Сяржук Краўчанка – былыя музыкі легендаранай “Бонды”.

Тут трэба адзначыць, што вялікую ролю ў стварэньні рамантычнага вобразу песень адыграў “улісаўскі” тэкставік Фелікс Аксёнцаў: “Паэт разумеў, што для якаснай музыкі патрэбны якасны тэкст: з унутранай драматургіяй і небанальны сымбалізмам, з абавязковым інтэлектуальным напаўненьнем, з мэтрычнай адэкватнасьцю рытмам року” (“Мастацтва” №8, 1990).

Разам гэты сплаў пранікнёнай лірыкі і выканаўчых навацыяў забясьпечыў песьням “ULISa” тое, што іх кампазыцыі апэлявалі да інтымнага сьвету перажываньняў і пачуцьцяў тагачаснага маладога беларуса. І таму многія песні станавіліся агульнанацыянальнымі гітамі, любімымі аматарамі рок-музыкі розных узростаў. Гэта тычыцца такіх песень, як “Чужаніца”, “Радыё Свабода”, “Пляц Францыска”, “Іржавыя дні”, “Танцы на даху”, “Краіна доўгай белай хмары”,“Як на далоні”, “Лязо”, “Пан Руст”...




Нажаль, як і многіх таленавітых гуртоў, “ULIS” нечакана напаткаў творчы крызіс. Некаторыя музыкі зьехалі на эміграцыю, некаторыя заняліся бізнэсам ці проста сыйшлі з каманды. У выніку ў 1994 годзе склад гурту значна зьмяніўся. І асноўная прыкмета зьменаў – вакалістам гурта стаў лідэр-гітарыст Слава Корань. Да яго далучыліся бас-гітарыст Аляксей Паўловіч (“Крона”), бубнач Алег Дземідовіч (“N.R.M.”) і другі гітарыст Ягор Марчук. Гэтым складам гурт падрыхтаваў і выдаў на магнітафонных касэтах такія альбомы як “Па-над дахамі” (1995), “Life 1996”, “Блуканьне”(1996), “Ратуйце вашыя душы” (1997)... З гэтымі ды іншымі музычнымі праграмамі, якія чакаюць свайго часу для рэмастэрынга і перавыданьня, ўдзельнікі гурта выступалі ў Маскве, Калінінградзе, Чарнаўцах, на фэсьце ў Сопаце (Польшча), па гарадох Беларусі.

Навейшы этап у творчасьці “ULISa” пачаўся з таго, што гурт ператварыўся ў трыо: сола-гітара і вакал – Слава Корань, Віктар Самарукаў (бас-гітара), Аляксандар Быкаў (бубны). Такія зьмены не паўплывалі на актыўнасьць гурта, які пастаянна радаваў незвычайным гучаньнем новых альбомаў, глыбокімі сімбалічнымі тэкстамі, яркімі канцэртнымі выступамі. І ня толькі ў складзе “роднай ” каманды: Слава Корань – сталы ўдзельнік супольнага праекту “Народны альбом”, акампаніятар рок-сьпявачкі Касі Камоцкай, а бубнач Аляксандр Быкаў – актыўны ўдзельнік застольнага праекта “Крамбамбуля”. Гэтым легендарным складам “ULIS” запісаў і выдаў на кампакт-дысках свае апошнія альбомы “Падарожжа” (2000) і “Lusterka” (2003).

У гэтых працах Слава Корань найпаўней рэалізаваў сябе ў новай іпастасі – як гукарэжысёр. Гэтаму дапамагло тое, што Слава пачаў вельмі актыўна асвойваць складаныя кампутарныя праграмы па лічбавым гуказапісу. У выніку гэтыя альбомы – лепшыя па гучаньню ў дыскаграфіі “ULIS”. Але ня толькі якасьцю гукавых дарожак прываблваюць слухачоў гэтыя дыскі. Перш за ўсё, высокім выканаўчым майстэрствам музыкаў, творчым выкарыстаньнем найноўшых музычна-стылявых сродкаў. І гэта ў духу “падарожжаў” гурта “ULIS”: “Атрымалася так, што нашыя музычныя ідэі былі сугучныя эўрапейскім тэндэнцыям ў рок-музыцы. Мы дадавалі свае беларускія матывы, сваё разуменьне сучаснай музыкі, і з гэтага выкрышталізаваўся стыль гурту – “музычная вандроўка”. Мы заўсёды эксперымэнтуем, зьмяняемся ў музычным пляне, не прытрымліваемся нейкага аднойчы вызначанага стылю. Таму нам блізкі і гард-рок, і гард-кор, і шмат чаго іншага з сучаснага музычнага арсэналу” — так тлумачыць слухачам зьмены ў гучаньні каманды лідэр гурту “ULIS” Слава Корань.

Мэлядычна песьні С. Кораня сталі больш выкшталцонымі, адчуваецца, што ён не перастаў вельмі ўважліва і паважна ставіцца да распрацоўкі тэмы, аранжыровак. Таму ў ягоных песьнях застаецца галоўнае – рок-нрольны імпэт і фальклёрная аснова. Каб у гэтым упэўніцца, лепш за ўсё ўспомніць кампазыцыі гурту “ULIS” – “Падарожжа”, “Ня ведаў, калі зьніч”, “Чаму?” з альбому “Падарожжа”...

Апошні альбом гурту “Люстэрка” працягвае тэматычны шэраг філязофскіх разважаньняў лірычнага героя гурта “ULIS” адносна фундамэнтальных каштоўнасьцяў чалавечага існаваньня – лёсу Радзімы, яе мовы, свабоды асобы, веры ў Бога і жыцьця чалавека... Дзеля гэтых мэтаў музыкі зьвярнуліся да гукавых фарбаў, адрозных ад тых, што выкарыстоўвалі раней. На альбоме дамінуюць больш жорсткія рытмы і тэмбры, створаныя з дапамогаю гітарнага працэсара, аснову аранжыровак складаюць разгорнутыя гітарныя партыі, якія, быццам, дапаўняюць словы тэкстаў песень. Чаму адбылася такая метамарфоза з гучаньнем і музыкай гурту “ULIS”? Ня трэба забывацца на тое, што гурт

**Заканчэньне на бач. 14**

# Беларуская клясыка хвалюе і сёньня

## Размова з рэжысэрам Мікалаем ПІНІГІНЫМ

Нядаўна ў Злучаныя Штаты разам зь Вялікім драматычным тэатрам з Санкт-Пецярбургу прыяжджаў вядомы таленавіты рэжысэр Мікалай Пінігін, які з посьпехам паставіў у гэтым калектыве п'есу ангельскага драматурга Рональда Гарвуда "Квартэт". Вядома, мы з радасьцю зь ім сустрэліся: у свой час некалькі гадоў давялося працаваць разам у Беларускім акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Менавіта напярэдадні абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Мікола Пінігін паставіў з купалаўцамі выдатны спэктакль па драме Янкі Купалы "Тутэйшыя". Вось ужо болей за 15 гадоў многія маладыя гледачы, там, на Радзіме, наведваючы гэты спектакль, далучаюцца да, услаўленага вялікім паэтам і драматургам, працэсу і пачуцьця беларускага нацыянальнага самавызнаньня. На купалаўскай сцэне Мікола Пінігін паставіў шэраг выдатнейшых спэктакляў, сярод іх "Эмігранты" С. Мрожака, "Ідылія" В. Дуніна-Марцінкевіча, "Дракон" Я. Шварца, "Гарольд і Мод" Ж. Кар'ера са славутай Стэфаніяй Станютай у галоўнай ролі, "Курыца" М. Каляды ды іншыя. А зусім нядаўна значнай падзеяй у тэатральным жыцьці Беларусі стаў спэктакль па матывах паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка", бліскуча прыдуманы й пастаўлены Міколам Пінігіным.

**- Вельмі рады бачыць цябе, Мікола, у нас у Амэрыцы. Раскажы, калі ласка, дзе ты цяпер жывеш, працуеш?**

- Жыву ў Пецярбургу, працую там у Вялікім драматычным, паставіў на той сцэне ўжо даволі многа спэктакляў. Але зь Беларусьсю, з радзімай, стараюся сувязяў не парываць. Амаль штогод стаўлю нешта ў Менску, да нядаўняга часу там працаваў нават мой антрэпрызны тэатар, так званы "Міколатэатар". Дарэчы, з гэтай трупай мы паставілі ў беларускім перакладзе "Эмігрантаў" Славаміра Мрожака, і ў 2003 годзе павезьлі й паказалі гэты спэктакль у Парыжы па запрашэньню Беларускага эміграцкага культурнага цэнтру, які ўзначальвае мастацтвазнаўца Вірджынія Шыманец. Ну вось, і апошняя мая праца – у гонар 85-годзьдзя тэатра імя Янкі Купалы там адбылася мая пастаноўка паводле вядомай, вельмі любімай мною паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка".

**- Як узьнікла ў цябе гэтая творчая задума?**

- Па-першае, я павінен сказаць, што да гонару купалаўскага тэатру: гэта адзін зь нямногіх тэатральных калектываў на прасторы былой савецкай таталітарнай дзяржавы, дзе, нягледзячы ні на што, жывуць выдатныя артыстычныя прафэсійныя традыцыі, традыцыі высокага артыстычнага майстэрства. Жыве і адчуваньне беларускага нацыянальнага духу, павагі да багатай нацыянальнай спадчыны. Зьвяртаючыся на некалькі гадоў назад, хачу нагадаць, што працуючы тады над "Тутэйшымі" Янкі Купалы, мы добра зразумелі, што гэта – найвыдатнейшы твор беларускай літаратуры і адначасова – першая ў Эўропе п'еса, напісаная у папулярнай стылістыцы, якую пазьней сусьветнае тэатразнаўства назвала



драматургіяй абсурду. Прыгадайце: вядомыя п'есы Бэкета, Іянэску і іншых зьявіліся пазьней "Тутэйшых". Але вернемся да "Сымона-музыкі". Я даўно марыў паставіць спэктакль па гэтай паэме Якуба Коласа, хацеў калісьці нават зрабіць гэта з Уладзімерам Мулявіным, каб ён выконваў і сьпяваў галоўную ролю. Я даўно напісаў інсцэніроўку, вяртаўся да яе, нешта правіў, удасканальваў. І акторы сталага пакаленьня, і купалаўская моладзь працавала над пастаноўкаю зь вялікім захапленьнем: даволі складаны тэхнічна спэктакаль быў падрыхтаваны за 40 дзён і паказаны якраз напярэдадні 85-годзьдзя тэатру.

**- Што ты асабіста хацеў выказаць у гэтай працы?**

- Я сёньня чытаю ў гэтай коласаўскай паэме актуальную, нажаль, гісторыю пра мастака, які нікому не патрэбны. Можа, гэта гучыць парадаксальна, але – людзі, якія адчуваюць, думаюць, людзі эмацыянальныя, адчувальныя да зьдзекаў і ранаў, – такія людзі, аказваюцца, не патрэбнымі. За асабістай трагедыяй мастака бачыцца сёньня і агульнанацыянальная трагедыя. Вядома, са сцэны не гучаць аніякія палітычныя асацыяцыі. Хаця ёсьць эпізод, дзе выразна і з падтэкстам гучыць славуты ўрывак: "О край родны, край прыгожы, родны кут маіх бацькоў..." Хацелася таксама падкрэсьліць, што на сёньняшні дзень адбылася пэўная дэвальвацыя слова ў грамадзтве – столькі ўсюды палітычнай і іншай балбатні. Таму ў нашым спэктаклі галоўнае – паэзія, яна мае сваю музыку.

**- Як табе працавалася ўжо з новым пакаленьнем купалаўскіх актораў?**

- Купалаўскія акторы вельмі арганічна адчулі й сыгралі маю інсцэніроўку. "Ці не родзіцца дзіцятка з гэткай чулаю душой" – гэта пра наш спэктакль. Сымон-музыка ў выкананьні трыццацігадовага актора Аляксандра Малчанава адчувае касьмічную энэргію, гукі космасу, у яго ўвесь час нейкія пытаньні да ўсяго навокал, да сусьвету. І ўсё гэта адбываецца ў спэктаклі на фоне інтэнсіўнай сялянскай працы, у нас аруць і сеюць, грукаюць, працуюць, як нейкі заведзены механізм... І ў гэтым падтэкст: у звычайнай мітусьні, у якой мы жывем, таленавіты сын свайго народу, паэта, мастак, музыка задае галоўныя пытаньні сусьвету пра сэнс жыцьця, пра сэнс чалавечага існаваньня. Герой трапляе ў розныя жыцьцёвыя сытуацыі. Ён прыходзіць да шынкара, які прымушае яго граць за грошы, – такая спакуса падсьцерагае і сёньня кожнага мастака. Потым ён трапляе да пана, якога-небудзь Радзівіла, і той сядае за раяль і грае Сымону Шапэна... На сцэне ўзнаўляецца гісторыя, што вельмі блізкая да біблійскай: там ёсьць нараджэньне, ёсьць радаснае ўспрыманьне ўсяго навакольнага, гучыць думка пра шляхі сусьвету, ёсьць каханьне, любоў і нянавісьць, ёсьць сьмерць... Ва ўсім гэтым гучыць нават нейкая міталёгія... Лічу, што малады актор Аляксандар Малчанаў – новае яскравае імя ў беларускім тэатры. У гэтым спэктаклі занятыя таксама і вядомыя купалаўцы Генадзь Гарбук, Арнольд Памазан, Віктар Манаеў, Мікалай Кірычэнка, Аляксандр Падабед. Шчыра кажучы, такой зацікаўленасьці ўсіх акцёраў падчас працы над спэктаклем і, як мне здаецца, такога выніку ў маёй рэжысэрскай практыцы яшчэ не было...

**- Дзякуй, табе, Мікола, за гутарку. Віншуем з посьпехам! Жадаем новага творчага плёну і, перш за ўсё, у Беларускім акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.**

А ў канцы гэтай публікацыі я зьвяртаюся з такой прапановай да чытачоў "Беларуса", да кіраўнікоў усіх беларускіх суполак, да ўсіх, хто можа дапамагчы гэтай справе. **Давайце запросім купалаўцаў з спэктаклем "Сымон-музыка" ў Амэрыку! Такая падзея зможа толькі ўзбагаціць, напрыклад, маючую адбыцца традыцыйную Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ці які іншы сход беларускай дыяспары.**

***На здымку: Мікалай Пінігін.***

***Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ (Чыкага)***

## Музычныя пажарожжы "ULISa"

***Заканчэньне з бач. 13***

ператварыўся ў трыо, і такія насычаныя тэмбры памагаюць С. Кораню дабіцца ансамблевай шчыльнасьці гучаньня. У той-жа час эмацыянальны вакал Славы Кораня і гітарны драйв дапамагаюць спасьцігнуць сэнс кампазыцый і зразумець тое, што хвалюе аўтара. Думаю, слухачы адчуюць гэты пасыл да слухача ў такіх кампазыцыях з альбому "Lusterka" як "Зачараваны сад", "Ты", "Я таньчу", "Забыты герой", у песьнях на вершы У. Караткевіча "Жаўранак", "Устану ранкам".

Так, ня многія беларускія рок-калектывы могуць сказаць, што іхная творчая канцэпцыя зьмянялася на працягу пятнаццаці гадоў, бо яна лягічна выцякала з назвы гурта. У адной зь песень альбому "Lusterka" ёсьць такія словы: "У адпаведнай краіне твой лёс пад замком..." Для недасьведчаных слухачоў гэта – быццам-бы сымбаль месца, дзе яны жывуць. Для лідара "ULISy" Славы Кораня "адпаведная краіна" – тое, чым займаецца ён ўсё свае жыцьцё і што хоча рабіць і надалей – выконваць сапраўдную беларускую рок-музыку.

Дыскаграфія гурта "ULIS":

1. **"Чужаніца"** (1989-1991,"Мелодия" LP, БМAgroup,2004, CK)
2. **"Краіна доўгай белай хмары"** (1990,"Polskie Nagrania", LP, БМAgroup,2004, CK)
3. **"Танцы на даху"** (1993, "Ковчег", MC, БМAgroup, 2004, CK)
4. **"Па-над дахам"** (1995, "Ковчег", MC)
5. **"Life 1996"** (1995, «Ковчег», MC)
6. **«Блуканьне»** (1996, «Ковчег», MC)
7. **"Ратуйце вашыя душы"** (1996-1997, "Саціс", MC)
8. **"Падарожжа"** (1999-2000, "Ковчег", CK)
9. **"Lusterka"** (2003, BELPI, CK)

***Анатоль МЯЛЬГУЙ, музычны аналітык***

## Рыхтуюцца да друку й хутка пабачаць сьвет ЗАПІСЫ БІНІМ, 30, 2006

ЗЬМЕСТ

# Строі вечнасьці (эсэ)

Беларускі ня ўмеюць быць непрыгожымі. Упершыню пра гэта падумалася даўно – у далёкім 1981-м, калі на паліцах кнігарняў зьявіўся альбом Міхася Раманюка "Беларускае народнае адзеньне". Мне тады было 24 – узрост, у якім чалавек, апрача зьнешняй прыгажосьці, ужо можа бачыць іншую: унутраную, духовую. І ўсё-ж, згаданая думка тычылася менавіта прыгажосьці прыроднай, дадзенай чалавеку ў спадчыну ад бясконцай чарады продкаў, ад прашчураў, што ў недасяжнай для вока, а, часам нават і думкі, даўніне пачалі ствараць этнічны тып Беларусаў.



**_Мадэлька Вера Бартуль_**

Раз за разам гартаў я тое выданьне ўглядаючыся ў непаўторныя й загадкавыя вышываныя або тканыя ўзоры, сыціплыя ўпрыгожаньні. Вось, нарадзіўся чалавек, а матка ці баба вышыла яму на першую кашульку першы знак. І ўсё ў тым знаку было: і пад якой зоркай і пад якім сузор'ем, і ў якім часе і ў якой сям'і, і якога роду ды якога народу... Рос чалавек і болела ўзораў на ягонай апратцы. Таму й не адкрываў продак кожнаму стрэчнаму сваю душу, не шчыраваў пра жыцьцё: хто ўмее – той і па ўзорах прачытае, а хто ня ўмее – дык таму й ня трэба.

На зьмешчаных у альбоме здымках разпораз трапляліся пары жанчынаў сфатаграфаваных у поўны рост: адзін здымак – сьпераду, другі – ззаду. Калі не глядзець першага, па другім нізавошта не заўважыш розьніцы ва ўзростах пазавальніц. А ўсё яны – андаракі ды наміткі, капары, кажушкі, гарсэцікі, чапцы ды хвартушкі, ды сьвіткі (латушкі). Створаныя нязнанымі геніямі й спраўджаныя часам, спрадвеку выстаўлялі яны сьвету Беларусак незвычайнымі прыгажунямі, гэта значыць: дадавалі да прыроднай пекнаты пекнату мастацкую, рукатворную. "Вось бы пусьціць у гэтых уборах прафэсійных мадэляк," – думаў я, і нават не ўяўляў, што ў далёкіх Штатах жыла тая самая прафэсійная мадэлька якая, апрача, няхай вышуканага, але ўсё-ж шырспажыву, мадэлявала й Беларускія народныя строі.

Я ня ведаю, што вышыла на першай кашульцы сваёй дачушцы Тацяна Касьцюкевіч зь вёскі Губічы, што ля Буда-Кашалёва, і ці вышыла што наагул. Калі-б гэтая вышыванка была, то мусіла-б на ёй быць выява Дзяньніцы-Мілавіцы – зоркі, якая ў залежнасьці ад варыянту й спалучэньня зь іншымі выявамі, ёсьць сымболем дзіцяці, маці, радзінаў, хрэсьбінаў, моцнай сям'і й шмат чаго іншага. Да таго-ж, дачушка Тацяны называлася Вэнэра (як казалі ў Губічах – Віня), што зьяўляецца рымскім адпаведнікам нашай Дзяньніцы-Мілавіцы. А неўзабаве ў гэтай чырвонай выяве мусілі-б зьявіцца чорныя ці сінія нітачкі – сымболь суму й жалобы, а на Буда-Кашалёўшчыне – яшчэ й узмацняльнік магічнасьці ўсяго арнамэнту.

Справа ў тым, што Віня нарадзілася разам з брацікам Анатолем, які праз некалькі месяцаў памёр. Бацька-ж дзяўчынкі (Аляксандар Касьцюкевіч) пасьля нараджэньня двойні апынуўся ў сталінскім лягеры пад Мурманскам, адкуль і напісаў жонцы нешта накшталт: "Не чакай. Жывым не вярнуся, мёртвага не прывязуць. Жыві сваё жыцьцё..." І яна жыла. Выйшла замуж, пераехала ў Гомель, зацяжарыла. А далей усё было, казаў той, як у кніжцы... Аляксандар вярнуўся дадому.

Аднаму толькі Богу ведама, што рабілася тады ў душы Тацяны, але так ці йначай, на кашульцы пяцігадовай Віні мусіла-б пабольць чорнага: маючы надзею аднавіць сям'ю, Тацяна зрабіла саматужныя няўдалы спарон (аборт)... Дачцэ пра сьмерць маці не сказалі нічога. Проста яе ня стала, але зьявіўся бацька, які працягваў гадаваць дзяўчынку.

Наўрад ці ў Беларускай традыцыйнай вышыванцы быў сымболь асьветы, аднак, у разе патрэбы, жанчына магла-б вышыць на дзіцячай кашулі нешта накшталт скарынавых сонейка зь месяцам... Віня вучылася ў Гомелі да родных Губічах, дзе й засьпела яе вайна. Аляксандара Касьцюкевіча, як рэпрэсаванага Саветамі чалавека, акупацыйныя ўлады прызначылі старастам у ягонай роднай вёсцы Дубенск, што "праз поле ды ручаёк ад Губічаў". А далей – ведамае ўсяму сьвету: "удзень – фашыстоўцы, уночы – партызаны", аж пакуль не наблізіўся фронт.

Магчыма, нашыя вышыванкі маюць матыў дарогі. Тое было-б лягічна побач зь ведамымі матывамі поля, ракі, лесу. Магчыма, ёсьць сярод іх сьветлая дарога вяртаньня да дому, змрочная дарога развітаньня, уцёкаў, падарожжа ў незнань, а таксама дарога надзеі. Вось-жа гэтая, апошняя, і магла-б зьявіцца на кашулі трынаццацігадовай Віні ў часе, калі яна з бацькам, пагрузіўшы на воз сякія-такія пажыткі, падаліся на захад – далей ад роднай хаты, ад фронту, ад савецкага раю. Разам зь імі ехалі й бацькі Аляксандра – Вініны дзед і баба...

Традыцыйна, Беларусы ня любяць пакідаць родных мясьцінаў. Чым далей закідае Беларуса пакручастая пуцявіна лёсу, тым больш ён пачувае сябе няўтульна, хваравіта, маркотціца, бяз дай прычыны злуе, нэрвуецца, адным словам: дэпрэсуе. Я ведаю людзей, якія за ўсё сваё жыцьцё ніколі не былі далей бліжэйшага мястэчка. На той самай Гомельшчыне сустракаліся мне насельнікі Чарнобыльскай зоны, якія нізавошта не хацелі выяжджаць са сваіх вёсак. "Тут нарадзіліся – тут і памром"... Напэўна з гэткай самай пароды былі й старыя Касьцюкевічы, якія праз пару дзён дарогі захварэлі й вырашылі, забраўшы з сабой унучку, вяртацца. Аляксандар атдаў ім каня, узяў самыя неабходныя рэчы, пачаў разьвітвацца. Акурат у гэты момант Віня запратэставала. Яна хацела йсьці з бацькам... "Вазьмі дачку," – сказаў Аляксандару аднавяскоўвец, які таксама йшоў дарогай надзеі.

Пацягнуліся доўгія, напаўгалодныя пераходы з выпадковымі начлегамі ў хлявах, пакінутых хатах, зацярушаных сьнегам стагах. Побач ішлі іншыя, свае. Яны й дапамаглі ўладкаваць Аляксандара ў лякарню, калі той, застудзіўшыся, зьлёг з высокай тэмпэратурай... Віня глядзела бацьку й ужо праз пару дзён, крыху ачуняўшы, але яшчэ хворы, той вырашыў даганяць сваіх... Яны зблыталі дарогі, пайшлі ня той, прыйшлі не туды, куды хацелі. Пазьней дачуліся, што тыя, каго меліся дагнаць, трапілі пад нямецкія кулі й палеглі ўсе...

У лягеры для перамешчаных асобаў у Ватэнштаце Венера Касьцюкевіч зьмяніла імя на Вера. Міталегія адыйшла на другі плян, а вось верыць у сваю зорку змушала само жыцьцё. Яна скончыла школу, разам з бацькам перабралася ў Вялікую Брытанію. Вывучылася на швачку й цяпер ужо сама магла пашыць сабе вышыванку з узорамі свайго лёсу, у якім раптоўна выбухнулі зыркімі, чырвонымі фарбамі матывы каханьня. Але таго ня сталася. Яна выйшла замуж і неўзабаве мусіла, замест сабе, шыць кашулькі для сваёй дачушкі...

У двух-паверховай хаце, якую Вера й Францішак Бартулі набылі ў Лёндане, было не да вышыванак. Каб уладзіць свой лёс, маладая сям'я мусіла здаваць адзін паверх кватарантам...

Ніхто не занатаваў і не запомніў імя той брытанскай акторкі, якая, кватаруючы ў Бартулёў, ацаніла прыродныя якасьці сваёй гаспадыні й падказала ёй пайсьці на курсы мадэляваньня апраткі.

Гэткім чынам у сьвеце зьявілася першая Беларуска-мадэль, а для Беларусаў запачаткавалася новая прафэсія. Магчыма, у Веры Бартуль былі папярэдніцы ў тагачасным Савецкім Саюзе. Нешта там усё-ж мадэлявалася, але для каго былі тыя апраткі, і хто іх насіў няведама да сёньня. Зь дзяцінства памятаю незвычайна рэдкія паказы мадэляў па тэлебачаньні. Памятаю таму, што ў гэты час жанчыны пакідалі свае хатнія справы ды йшлі да экрану "паглядзець, у чым людзі ходзяць". І хоць ніхто з маіх знаёмых тых апратак не насіў – амаль усе яны верылі, што нехта ўсё-ж носіць, што верылі і ў тое, што камунізам прыйдзе, а для некага ўжо прыйшоў.

Талент мадэлі Веры Бартуль раскрыўся ў ЗША, куды яна перабралася разам зь сям'ёй, каб быць бліжэй да бацькі, які знайшоў працу на заводзе "Джэнерал мотарс" у Бафала. Яна выходзіла на подыюмы Нью-Ёрку й Лёс-Анжэлесу, Сан-Францыска й Чыкага. А яшчэ мадэлявала сама, для душы, для блізкіх, родных і знаёмых. Але гэта не была апратка-аднадзёнка, гэта былі строі вечнасьці – нацыянальныя строі нашага народу.

Зь вялікай цікавасьцю чытала Вера Бартуль інфармацыю пра новую Беларускую зорку мадэльнага бізнэсу Марыю Дзідараву й ад усяго сэрца жадала ёй посьпехаў, спадзеючыся, што тая таксама некалі зьвернецца да строяў вечнасьці, як рабіла гэта сама Вера, як, у свой спосаб, рабіў гэта вялікі Міхал Забэйда-Суміцкі, сьпяваючы Беларускія народныя песьні ў самых прэстыжных канцэртных залях Эўропы. Як робяць гэта, ізноў жа кожны па-свойму, сотні Беларусаў, якім лёс нakанаваў шляхоў высокіх, не шараговых, а таксама людзі звыклых прафэсіяў, што патрапляюць паўсюдь паказаць сваю працавітасьць, свой прафэсіяналізам па-Беларуску.

Вера Бартуль адыйшла ў вечнасьць сьледам за мужам Францішам. Але, апрача памяці й нашчадкаў, па ёй засталіся сотні фатаздымкаў, дзясяткі замалёвак і некалькі вышыванак. Яна не любіла згадваць пра мінулае, не любіла гаварыць пра сваю прафэсійную працу, але любіла гаварыць пра прафэсію мадэлі наагул. Яна мела добры мастацкі густ і таму ніколі ня скончыла сваёй прафэсійнай дзейнасьці, але ўжо ў якасьці распрацоўшчыцы мадэляў ды стварэньня вышыванак для дзяцей і ўнукаў. Яна ніколі не ўводзіла ў свае творы матываў ростані, журбы ці роспачы. Ейныя рукі стваралі сьветлыя ўзоры Беларускай вышыўкі, якую яшчэ ніхто не прачытаў, а значыць не спасьціг цалкам усёй глыбіні душы гэтай жанчыны, не зразумеў да канца паглядаў на жыцьцё і лёс той, што адкрыла нашаму народу шлях у новую прафэсію, прафэсію апраткі-штодзёнкі і строяў вечнасьці.

**_Сяржук СОКАЛА-ВОЮШ_**

**_Да друку здымкі падрыхтаваў Мікола Шыдлоўскі._**





**_Вышыванкі Веры Бартуль для сваіх дзяцей, Ані й Антона._**

